*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 2(439) 12 СТУДЗЕНЯ 2000 г.



**Вольга Іпатава**

### МІРСКІ ЗАМАК

Распрамляе сагнутыя плечы,
Набіраючы сілы ў зары.
Вежы струнка паўсталі, як свечы,
Атуляючы замак у Міры.

Іх запальвае сонейка ўранку.
Не задзьмулі б ліхія вятры!
Пяць стагоддзяў віецца Міранка,
Аздабляючы замак у Міры.

Завяшчалі нам спадчыну продкі –
Госць замежны, прыйдзі і замры!
Стане слова цукеркай салодкай,
Апяваючы замак ў Міры.

Час страшэнныя раны залечыць,
Ён зямлі маёй прыме дары,
Як надзею народа, у Вечнасць
Адпраўляючы замак ў Міры.

## Вельмішаноўная Вольга Міхайлаўна!

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сардэчна віншуе Вас з юбілейным годам у Вашым жыцці. Сімвалічна, што гэтая прыгожая дата – 55 – супала з 40-годдзем Вашай творчай біяграфіі, а таксама з такой важнай гістарычнай падзеяй, як 2000-годдзе хрысціянства. Нам прыемна адзначыць, што Вашы літаратурныя творы вызначаюцца глыбінёй, непасрэднасцю і шчырасцю. Вам падуладныя розныя літаратурныя жанры: верш, апавяданне, аповесць, раман. Вашы кнігі на гістарычную тэматыку карыстаюцца вялікім попытам у падлеткаў ды моладзі. Яны будуць заўсёды запатрабаваныя, бо ў гэтых кнігах наша мінулае, слаўнае і трагічнае, без ведання якога немагчыма ўявіць сабе грамадзяніна Беларусі XXI стагоддзя. Мы верым, што раман "Залатая жрыца Ашвінаў" атрымае высокую ацэнку як лепшы твор беларускай прозы апошніх гадоў.

Вашы шматлікія сустрэчы з чытачамі, публікацыі ў СМІ, прамовы на высокіх сходах, выступленні на тэлебачанні не пакідаюць нікога абыякавымі. Яны бяруць у палон неардынарнай логікай мыслення, перакананасцю, глыбінёй думкі, жаночай абаяльнасцю, прыгажосцю роднай мовы, якая так натуральна і міла гучыць з Вашых вуснаў.

Мы ганарымся, што Вы знаходзіце час на працу ў Таварыстве.

Няхай 2000 год будзе плённым у Вашым творчым жыцці. Заставайцеся назаўсёды такой прывабнай, пяшчотнай, любімай і разам з тым па-сучаснаму дзелавітай. Удалага Вам старту ў XXI стагоддзе!

*Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*
*Алег Трусаў*

## У 2000 год з Еўфрасінняй Полацкай




21 снежня ў 12.00 ва універсітэцкім дворыку, што знаходзіцца насупраць чыгуначнага вакзала Менска адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка нашай славутай зямлячцы, асветніцы зямлі Беларускай, святой Еўфрасінні Полацкай. Побач, у гэтым жа двары знаходзяцца яшчэ два помнікі нашым славутым землякам, Францішку Скарыне і Міколе Гусоўскаму, праўда, чамусьці без пастаментаў. У святочным мерапрыемстве бралі ўдзел выкладчыкі і студэнты менскіх вузаў і іншыя.

Перад прысутнымі выступілі рэктар БДУ, міністр культуры сп. Сасноўскі. Помнік асвяціў праваслаўны святар, было ўскладзена шмат жывых кветак.

Імпрэза доўжылася недзе 25 хвілін, пасля чаго прысутныя накіраваліся побач у будынак БДУ на выставу аўтара помніка Еўфрасінні Полацкай скульптара Ігара Голубева. На ёй прадстаўлены фатаграфічныя выявы 24-х прац мастака, такіх як помнікі Уладзіміру Караткевічу ў Оршы, Язэпу Драздовічу "Вечны вандроўнік" ў Траецкім прадмесці Менска, Архангел Міхаіл перамагае злога, каля Чырвонага Касцёла ў Менску, Напалеону Ордзе ў г.Янава Брэсцкай вобласці, друкару Спірыдону Собалю ў Куцейнскім манастыры ў Оршы, пано "Песня пра зубра", барэльеф "Грунвальд" і іншыя.

Будзем спадзявацца, што наш таленавіты мастак дасць нам магчымасць яшчэ не раз парадавацца з нагоды увекавечання памяці нашых славутых землякоў.

*Алесь Гурыновіч.*



## "Святы вечар добрым людзям..."

Песнямі і танцамі адзначае Калядныя святы фальклёрны калядны калектыў Палаца культуры саўгаса "Рудакова" Віцебскага раёна

На здымку: удзельніцы каляднага калектыву Тамара Мячынкава, Яўгенія Ганюк і Валянціна Мялькова.

Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.

## Дыплом выдавецтва Кнігі рэкордаў Гінеса ў Менску

23 снежня ў Менскім клубе "777" прайшло ўрачыстае мерапрыемства – уручэне Дыплома выдавецтва Кнігі рэкордаў Гінеса ўдаве вядомага беларускага мастака Кішчанка Аляксандра Міхайлавіча, аўтара "Габелена стагоддзя". Незвычайнасць гэтага твора ў тым, што гіганцкае палатно вышынёй ў шасціпавярховы дом выраблена метадам ручнога ткацтва з воўны. Яго памер: 19х14 метраў, 266 метраў квадратных, вагой 300 кілаграмаў.

Перад уручэннем Дыплома адбылася не менш цікавая падзея -- два беларускіх асілкі Вячаслаў Харанэка і Сяргей Трыфанаў правялі гадзінны марафон, вынікам якога сталі два сусветныя рэкорды. Вячаслаў пабіў свой жа, які раўняўся 800 пад'ёмам 32-кілаграмовай гіры за гадзіну з вынікам 825. А Сяргей Трыфанаў пабіў рэкорд расейца Аляксея Варатынцава 1723 рыўкі 16-кілаграмовай гіры за гадзіну з вынікам 1841.

Праз некалькі хвілін Вячаслаў Харанэка перад журналістамі паказаў некалькі сваіх сілавых трукаў, адзін з якіх паўтор нашага славутага земляка Якуба Чахаўскага, у шпагаце перажагнаўся двухпудовай гірай.

Пасля абодвух імпрэз адбылася супольная прэсканферэнцыя. Удава Аляксандра Кішчанкі паведаміла, што "Габелен стагоддзя" не быў заказной працай, аўтар зрабіў тое, што хацеў. А Вячаслаў Харанэка ў сваёй прамове выказаў, што гэтыя рэкорды ставяцца ў першую чаргу для таго, каб праславіць нашу Беларусь, а таксама для прапаганды здаровага ладу жыцця ў нашым народзе, каб хоць трохі адцягнуць нашу моладзь ад п'янства, бездухоўнасці.

На імпрэзе прысутнічаў адзін з натхняльнікаў спартовага мерапрыемства Уладзімір Даўжэнка, аўтарская перадача якога "Асілак" была зачынена 7 месяцаў назад. Асабіста на мой погляд "Асілак" быў тым нешматлікім, што магчыма было з задавальненнем пагляздзець на БТ. На маё пытанне, як аднасіцца Вячаслаў да зачынення "Асілка", ён адказаў, што проста незразумела і крыўдна за знікненне тэлеперадачы, якую чакалі ўсе, хто вядзе здаровы лад жыцця, любіць спорт.

У прыватнай размове Вячаслаў добра паставіўся да ТБМ і паабяцаў даць інтэрвію для нашай газеты. Так што, ТБМ-аўцы, давайце браць прыклад з такіх людзей, як Вячаслаў Харанэка, перамагчы могуць толькі моцныя і здаровыя людзі.

*Алесь Гурыновіч.*



№ 2 (439) 12 СТУДЗЕНЯ 2000 г. Наша слова

Вячаслаў Мілкоўскі

# МАТЧЫНА МОВА

**(Працяг. Пачатак у № 48 за 1999 год.)**

АДДЗЯЖЫЦЬ – адлупцаваць, "перацягнуць" некалькі разоў. Б

АДЛЕЦІЦЬ – крыху падагрэць, зрабіць цяплейшым.

АДЦЫБУЧЫЦЬ – вытварыць непрыстойнае, дзіўнае, смешнае, нялюдскае. – Такое ўжо адцыбучыў, што доўга ўсе смяяліся. Б

АКАШЫЦЦА – Хай на ім і акашыцца (хай наступства заслужанай ім бяды ў яго і трымаецца).

АЛЯНДЭРКА – некалі гатунак селядца. Б

АНІМУША – незчэпа, ганарлівая, панственная жанчына, дзяўчына (часам мужчына). – Сядзіць сабе гэта анімуша, нат не дапаможа. І патрывожыць нельга гэтую анімушу. Глянь, пакрыўдзілася ні за што анімуша!

БЛЫТАЦЬ – гаварыць без сэнсу, блытана, нелагічна; Вязаць шпрыхамі ці кручком.

БОХАЦЬ – многа піць раз-пораз вадкасці.

БЭНЦНУЦЬ – ляпнуць, стукнуць па чым-небудзь; упасці, зваліцца на падлогу.

ВІЖАВАЦЬ – падглядваць, доўгі час і з вялікай цяжкасцю даведвацца пра патаемнае іншага чалавека. – Прыходзіць тут і віжуе. У

ВЫБІРКІ – тое нікудышняе, што засталося пасля выбірання чаго-небудзь.

ВЫСЦІГАЦЬ – даганяць, перапыняць.

ВЫХЛЕБЕСЦІЦЬ – выстудзіць (пакой), адчыніўшы дзверы.

ГАМАВАЦЬ – тармазіць. Б

ГАМЗАЦЬ – вымаўляць, гаварыць у нос, часам ад прастуды.

ГАПЕЛА – тоўсты, нязграбны, ідзе і гупае.

ГАПТКА, ГАТАЧКА – аплік.

ГАРЫШЧА – вышкі, гара.

ГАСІЦЬ – забіваць кол, моцна стукаючы па ім. – Во гасіць, аж яха ідзе. Б

ГНЭБЦІ – пазногці (г. – выбуховае). Б

ДАПЯЦЬ – дайсці, даехаць, дабрацца, туды, куды ня варта было б. – І туды ўжо дапяў, хто б мог падумаць.

ЗЛАБУДАЦЬ – пабудаваць штонебудзь, сшыць, звязаць, сканструяваць несамавітае, неважнецкае.

ЗРУГАВАЦЬ – добра, спраўна скіраваць калёсы, тачку, машыну. (г – выбуховае)

ЗЕЛЯПАЦЬ – гаварыць абы-што крыўляючыся.

КАЛАМАЗНІК – брудны, неахайны мужчына.

КАПАВАЦЬ – думаць, прыдумваць. – Ужо колькі капуем і выхаду ня бачым.

КРЫЖАВАЦЬ – рэзаць дровы, перарэзаць паваленае дрэва.

ЛАНДРЫНКА – некалі цукерачка асобага гатунку. Б

ЛАТВЕЙ – хутчэй, праворней. У

ЛАХАДРЭЙКА – бедная верхняя вопратка.

МАХНУЦЦА – з'ездзіць куды-небудзь і пабыць там нядоўга.

МІТУСЬ – паміж. – Мы тут ляжам, а ты кладзіся мітусь.

МЭНЧЫЦЦА – мучыцца з кім-небудзь. Б

НА УРЛЯП – у вырай. – Вось і жоравы ляцяць на урляп. Б.

НАМУРЗАЦЦА – несціся, напіцца часта чужога, дарэмнага.

НАРЭЗАЦЦА – добра наесціся.

НАСЕСЦІ, НАЛЕГЧЫ – Ты ўжо насела на гэтыя туфлі, хутка іх спляжыш.

НАСЛАНОЕ – нечаканая, стыхійная непрыемнасць. – Што за насланое..?

НЕДАТКНЁНЫ – ганарлівы чалавек, які ня церпіць кпінаў і заўваг.

ПАБІРАНЕЦ, ПАБІРУШКА – жабрак, жабрачка, бомж.

ПАКАМІСЬ – пакуль што.

ПАРТОЛІЦЬ – наважыцца нешта рабіць ды ўрэшце сапсаваць.

ПЕРЫЦЬ – біць, лупцаваць каго-небудзь; выбіваць. – Во пярыну перыць – ледзь ня рве.

ПРУГМЕНЬ – пругменне, месца каля гумна.

ПРЫДАБЫЦЬ – ён жа прыдабыў суседцы дзіцятка.

ПРЫМАСТАКОРЫЦЬ (ЦА) – прымацаваць, прыбіць, прымасціць; самому прымасціцца.

ПРЫСКІЧЫЦЬ – наспець. – Яму ўжо прыскічыла ехаць у горад. А хто сена знясе?

ПХНУЦЦА – ісці куды-небудзь нехаця, валачыцца па вуліцы. – Няхай і ён пхнецца за імі.

РАСХРАБУСТАЦЬ – разбіць, растаптаць (што-небудзь шкляное).

РАСТРУХАН – непрыбраны, з растрэпанымі валасамі, неакуратны ў вопратцы чалавек.

САРАМАТНІК – бессаромны чалавек. У

СКЛЮД – вялікі нос.

СКРЫПАЦЬ (ЦА) – што-раз выходзіць і заходзіць.

СЛОЦЬ – сырое надвор'е, восеньская непагадзь. Б

ТАМКА, ТАМАЧЫ – там.

ТРУХТА – укормленая, поўная, але жвавая жанчына.

УЛУКАТКІ – ісці у той і іншы бок, як п'яны ці насамрач п'яны. – Вонь твой ужо ідзе ўлукаткі.

УМІНАЦЬ – есці вялікі кавалак з жаднасцю. – Твой ледзь дакрануўся, а мой так добра ўмінае.

ФАЦЭНТЫ – цікавы з выгляду, прывабны, багата апрануты і прыгожа ходзіць; цікавая рэч. Б

ХВАЛІДУПА – задавалісты чалавек, дарма ўзносіць сябе, перабольшвае сваё значэнне ў чым-небудзь.

ЦАЦАХА – важная жанчына, з якою ня варта мець справу, бо ня ведаеш, як да яе падступіцца. Б

ЦВІЧЫЦЬ – штудыраваць дамашні ўрок; "выхоўваць" дзіця. – Бацька добра выцвічыў яго, цяпер будзе як міленькі.

ЦУГЛЯЦЬ (каня) – закілзваць; узяць у моцныя рукі. – Яна яго добра зацугляла – цяпер ён як быццам і ня п'е.

ЦУРБОНІЦЬ – (пра моцны дождж); пісяць, многа сабраўшы.

ЦЫМБОРЫК – (ласкавая назва дзіцяці). Б

ЦЫЦОХА – жанчына, дзяўчына з вялікімі грудзьмі.

ЧЫКІЛЬДАЦЬ – кульгаць.

ШАЛАПЛУТ – шалапут.

ШАМБЕРКА – (непрыстойная назва жанчыны, дзяўчыны).

ШАРАХАЙЛА – неакуратны, непаваротлівы, што "слон у аптэцы".

ШКІРЫЦЦА, ШКІРЫЦЬ ЗУБЫ – смяецца, выстаўляючы зубы. – Шкірыцца і шкірыцца, ніяк не схавае цяслу.

ЮХА – "недаткнёная" жанчына, якую ня варта чапаць. – Гэтай юхі не чапай, бо будзеш потым каяцца. Б

*(Працяг будзе.)*

**Павел Сцяцко,**

*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Выкруціць – не вывярцець. Вывярцець*** – закончанае трыванне ад ***вярцець.*** Гэтым небеларускім дзеясловам адпавядаюць словы ***выкруціць*** і ***круціць.*** Згаданы РБС-53 падае: "Верцець несов. в разн. знач. круціць; вертеться – круціцца; вертеться под ногами – круціцца пад нагамі; вертеться на языке – круціцца на языку; не вертись, говори правду – не круціся, гавары праўду (с.53); вывертеть сов. выкруціць (с.79)". Тое самае бачым і ў самых апошніх перавыданнях гэтага найбольш аўтарытэтнага слоўніка: РБС-93 і РБС-98: "Вертеть несов. в разн. знач. круціць... вертеть носом – круціць носам; вертеть хвостом – круціць хвастом; как ни верти – як ні круці; вертеться под ногами – круціцца (блытацца) пад нагамі (т.1.С.155). "Вывертеть сов. прост. выкруціць, мног. павыкручваць, см. вывернуць 1. "Вывернуць 1. Выкруціць. Мног. павыкручваць" (Тамсама.С.241)

Дык адкуль такое: "Вывярцець зак., што (разм.). Разгарнуўшы, раскруціўшы, выняць? Вывярцець харчы з хустачкі" (ТСБЛМ. С.121). Хіба не натуральным тут ёсць ***выкруціць***? Адкуль такое змешванне розных моваў? Усё адтуль – расейскамоўных слоўнікаў (Гл.: С.И. Ожегов. Словарь русского языка. М.,1982.С.99).

***Круцёлка – а не вяртушка.*** Слова ***круцёлка*** – натуральнае ўтварэнне ад ***круціцца (круцёлк-а)***. Яго падае В.Ластоўскі: "Вертушка ж., пяровертка на восі для запіраньня: круцёлка (ПРК(Б)С.С.60). Гэтае слова з двума значэннямі фіксуе "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.2.Мн., 1978. С.734): "Круцёлка, ж. Разм. 1. Назва розных прадметаў, прыставанняў, якія круцяцца. 2. Легкадумны, ветраны чалавек (пераважна пра жанчыну)". Занатаваў гэта і "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (Мн., Т.1.1988. С.618): "Круцёлка ж. разг. 1.Техн. вертушка; волчок; 2. (Легкомысленная женщина) вертушка".

Натуральнасць гэтага ***круцёлка*** і як тэхнічнага тэрміна пацвярджаюць і іншыя вытворныя, у іх ліку і тэрміналагічныя адзінкі; да прыкладу, ***круцігалоўка*** ж. заол. Вертишейка, вертиголовка (Тамсама). Дый значэнне дзеяслова ***круціцца*** як адэквата рас. ***вертеться***, якое падае гэты слоўнік: "Круціцца несов. вращаться, вертеться; кола круціцца – колесо вращается (вертится)".

Здзіўляе ў звязку з гэтым падача як тэхнічнага тэрміна – на месцы натуральнага ***круцёлка*** – слова ***вяртушка*** ў перакладных РБС. Так, у РБС-53 зафіксаванае: (с.54). БРС-62 падае ўжо два белар. адпаведнікі рас. вертушка: "Вяртушка ж. техн. вертушка" (с.195) і "Круцёлка ж. разг. вертушка" (с.402). РБС-82 (т.1.С.91), насуперак свайму папярэдніку (РБС-53), падае два словы ў беларускай частцы слоўнікавага артыкула да рас. тэхнічнага тэрміну: "Вертушка 1. Тэхн. Вяртушка, -кі, ж. разг. круцёлка,-кі,ж.". Гэта прадублявалі і ўсе астатнія перавыданні – РБС-93, РБС-98 (Т.1.С.156).

"***Вяртушка*** як назва розных прадметаў, інструментаў, якія свабодна ***круцяцца***", не падмацоўваецца ніводным прыкладам яго выкарыстання (гл. ТСБМ. Т.1.С.602), тымчасам як ***круцёлка*** – тэкстамі з твораў Якуба Коласа, Янкі Брыля ды іншых пісьменнікаў. Штучнасць гэтага ***вяртушка*** адчулі складальнікі новага "Тлумачальнага слоўніка" (Мн., 1996), які змяшчае на сваіх старонках толькі беларускае слова (і няма тут вяртушка): "Круцёлка, ж. 1. Назвы розных прыстасаванняў, прадметаў, якія круцяцца. 2. Легкадумная, ветраная жанчына (с.302).

***Апорны – а не нясучы.*** У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т.3. Мн., 1979. С.438) чытаем: "Нясучы. 2.у знач. прыметніка. Спец. Які падтрымлівае сабой што-н. Нерухомае, служыць апорай для чаго-небудзь. Нясучы брус рамы сеялкі". Дык чаму не ***апорны***, калі ён (брус) служыць апорай? Складальнікі ТСБМ механічна перанеслі ў беларускі слоўнік рас. ***несущий*** (замяніўшы суф. – ***ущ-*** на ***–уч-***), не парупіўшыся заглянуць у "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К. Крапівы і П.Глебкі, дзе засведчана: "Несущий прил. техн. апорны" (М.. 1953. С.318). Іх не бянтэжыла і тое, што гэтае "нясучы" знаходзіцца ў межах той самай лексемы з значэннем 'які нясе шмат яец (пра птушак)'. ***Нясучая парода курэй***". І тое, што ўтварэнні з суфіксам ***–уч-*** (***-юч-***) беларускай мове неўласцівыя. У першым томе "Беларуска-рускага слоўніка" (Мн., 1988. С.810) чытаем: "Нясучы 1. Прич. Несущий; 2. Прил. техн. несущий; нясучая плоскасць – несущая плоскость; нясучая канструкцыя – несущая конструкция". Як бачым, тут ужо цалкам "зліліся" мовы. А вось тэрміналагічныя слоўнікі незалежнай Беларусі падаюць натуральны тэхнічны тэрмін: "Паверхня апорная – поверхность несущая" (Ул.Самайлюкевіч, Ул.Пазняк, А.Сабалеўскі. "Руска-беларускі фізічны слоўнік" Мн.,1994.С.159).

Слова ***апорны*** як адэкват рас. ***несущий*** бачым і ў акадэмічным "Русско-белорусском словаре" 1993 і 1998 (Т.2. С.234). Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн.,1996) справядліва не падае штучнага слова "***нясучы***".

***Адметны, адмысловы – а не адменны.*** "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.1. Мн., 1977. С.153) змяшчае на сваіх старонках перанесенае з "Словаря русского языка" (В четырёх томах. М., 1957 – 1961. Второе изд. Т.2.С.601) слова ***адменны*** (<рас. ***отменный***) з двума значэннямі: "1. Не такі, як усе; своеасаблівы, адметны. 2. Самы лепшы, незвычайны". І вось што у згаданым СРЯ: "Отменный. 1.Очень хороший по качеству; отличный, превосходный. 2. Устар. Не похожий на других, не такой, как другие; отменный". Як бачым, тут толькі месцамі памяняліся пункты 1 і 2. А перакладныя акадэмічныя РБС рас. ***отменный*** перакладаюць як ***выдатны***, ***вельмі добры*** (РБС – 53. С.374; РБС – 82.Т.1. С.629; РБС – 93. Т.2. С.397; РБС – 98. Т.2. С.397). БРС – 26 падае гэтае сугучнае з рас. слова з зусім іншым значэннем. На с.22. чытаем: "Адменны – переменный, разновидный". Гэты тэрмін бачым у "Беларускай навуковай тэрміналогіі. Вып. 6. Батаніка агульная і спецыяльная". А таксама: Адменьнік м. – вариант".

"Беларуска-рускі слоўнік" пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы невядома чаму падае: "Адменна нареч. отменно. Адменны – отменный, отличный; особый" (с.61). У двухтомавым перавыданні ўжо чытаем: "Адменны – (непохожий) отличный, особенный" (Т.1.Мн.,1988.С.84). Тут ужо няма прыслоўя ***адменна*** (яго функцыю выконвае слова ***выдатна***) і прыметнік мае больш вузкае значэнне – па сутнасці дублюе прыметнік ***адметны***. Параўнайма: "Адметны – отличительный; отличный, заметный". Падаецца тут і беларускае слова: ***адмысловы – особый, особенный....***

Як бачым, беларуская мова мае свае дакладныя адпаведнікі да рас. ***отменный***: ***адметны*** і ***адмысловы***.

*(Працяг у наступным нумары.)*



# “Закон існавання – душы неспакой”,–

*Анатоль Вярцінскі.*

Кожная мясціна, кожная вёсачка ці горад мае свае адметныя асаблівасці, па якіх іх пазнаюць у народзе, у свеце. Запытайцеся ў каго-небудзь з больш-менш дасведчаных людзей пра Старыя Дарогі, што на Меншчыне, і амаль кожны вам адкажа, што гэты край здавён славіцца самай лепшай у Беларусі гарэлкай. Старадарожцы валодаюць сакрэтамі вырабу гэтага незаменнага шмат у якіх выпадках прадукту. Але, як кажуць, не хлебам адзіным і, безумоўна ж, не гарэлкай жыве чалавек.

Напрыканцы другога тысячагоддзя ў вышэйпамянёным раённым цэнтры адбылася падзея, пасля якое, на добры толк, Старыя Дарогі будуць пазнаваць яшчэ і па іншае прыкмеце. За імі, дасць Бог, замацуецца слава горада, дзе ёсць незвычайны культурны асяродак – прыватны мастацкі музей. Шмат чым адметны гэты музей, а перадусім тым, што створаны ён намаганнямі аднаго чалавека, сябра ТБМ Анатоля Белага. Старыя Дарогі – ягоная бацькаўшчына. Тут ён нарадзіўся, гадаваўся. Адсюль пайшоў у вялікі свет, сюды ж і вярнуўся праз 60 гадоў свайго жыцця. Вярнуўся не з пустымі рукамі, а з пэўным духоўным набыткам, які стаў магчымым дзякуючы ягонай напорыстай натуры. Школьныя сябры Анатоля распавядаюць, што ён заўсёды вылучаўся сярод аднакласнікаў сваёй нястомнай энергіяй. Дый цяпер ён заўсёды ў руху, заўсёды ў справах. Але дзе б ні працаваў, чым бы ні займаўся спадар Белы, цяга да збіральніцтва ніколі не пакідала яго. Збіральніцтва, як хранічная хвароба, пераследуе яго ўсё жыццё. Вынікам гэтага шматгадовага захаплення становіцца вялікая калекцыя жывапісу, скульптуры, экслібрысаў, медалёў – усяго каля трох тысячаў твораў выяўленчага мастацтва беларускіх аўтараў. Сярод іх імёны такіх знакамітых майстроў як Віталь Цвірка, Леанід Шчамялёў, Заір Азгур, Яўген Ціхановіч, Аляксей Пятрухна, Сяргей Вакар, Алесь Шатэрнік – усіх не пералічыць.

“Я вырашыў, што гэтае багацце ўжо належыць не мне, а належыць беларускаму народу, Беларусі”, - сказаў спадар Анатоль ды распачаў новую для сябе справу – будоўлю. За кароткі час пры бацькоўскае хаце з’явілася ладная па памерах двухпавярховая цагляная прыбудова галерэйнага тыпу, дзе і размясцілася значная частка калекцыі. Над экспазіцыяй шчыраваў сябра па клубе “Спадчына” мастак Алесь Цыркуноў. Адкрыццё музею было прымеркаванае да юбілею гаспадара – 60-х угодкаў ад нараджэння. Пагадзіцеся, выпадак не ардынарны, уласцівы людзям крутога характару. Кажуць, што спадар Анатоль сюды (на вуліцу Садовую, 52) і далучыліся да гэтае культурнае акцыі. А пачалася яна з рытуалу асвячэння будынку. Урачыста прагучала сурма слыннага музыкі ды майстра Уладзіміра Пузыні, пасля чаго да прысутных звярнуўся айцец Сергій. Ён маліўся ды прамаўляў да народа на мове гэтага народа, што цешыла і сагравала ўсіх нас у гэты халодны снежаньскі дзень. Па асвячэнні музею айцец Сергій уручыў спадару Беламу грамату ад Яго высокапраасвяшчэнства Мітрапаліта Філарэта і каштоўны падарунак – “Евангелле ад Марка”, некалькі асобнікаў новае кнігі, упершыню выдадзенае на чатырох мовах: беларускае, рускае, царкоўнаславянскае, старажытнагрэцкае.

Затым было шмат прамоваў, шмат добрых ды шчырых слоў на адрас юбіляра. Яўген Калубовіч зачытаў тэлеграмы, што прыйшлі з нагоды падзеі. Выступоўцы віншавалі не толькі спадара Белага, але й мясцовых жыхароў, якім пашчасціла, што тут нарадзіўся такі руплівы, неспакойны душою чалавек. У няпросты для ўсіх нас час ён здзейсніў высакародны грамадзянскі ўчынак, які сведчыць пра клопат аб духоўным жыцці сваіх землякоў. Анатоль Вярцінскі падарыў юбіляру сваю кнігу паэзіі і прачытаў адзін з вершаў, дзе ёсць цудоўныя радкі пра людзей, што шчыруюць на ніве духоўнага адраджэння:

Душа не можа ў спакоі гібець,
Ёй трэба рухацца, плакаць і пець,
Палаць агнём, струменіць ракой,
Ноччу стагнаць, смяяцца ранкам,
Птушкай ляцець, біцца падранкам.
Закон існавання – неспакой.

Алесь Цыркуноў назваў Анатоля Белага каралём нефармальнага руху і ў пацверджанне сваіх словаў ахвяраваў музею новы жывапісны твор “Партрэт Анатоля Белага ў кароне” з пажаданнем, каб карона гэтая ніколі не заржавела. Каля дваццаці прысутных выказалі свае шчырыя пажаданні з нагоды гэтае ўрачыстасці. Ад Таварыства прамаўляў Мікола Лавіцкі, намеснік старшыні. У гэты ж дзень калекцыя Анатоля Белага папоўнілася новымі мастацкімі творамі.

Свята адкрыцця музея ўжо стала старонкаю гісторыі, а для спадара Анатоля пачаліся працоўныя будні. Зараз ён жыве клопатамі пра пашырэнне экспазіцыйных плошчаў. Мяркуецца, што гэта будзе новае памяшканне, дзе памесцяцца творы, што не трапілі ў прэзентаваную экспазіцыю. “Мясцовыя ўлады не ў захапленні ад мае дзейнасці, - кажа спадар Анатоль. – Былі незычліўцы, якія хацелі падпаліць будынак. Але неўзіраючы на гэта музей усе ж такі адбыўся. Тут прысутнічаюць усе кірункі мастацтва – ад жывапісу да разьбы па



**Слова айца Сергія пры асвячэнні музея.** *Здымак Алеся Калубовіча.*

запрасіў на гэтае свята сто чалавек. Толькі з Менску прыехала каля пяцідзесяці. Сярод іх айцец Сергій, а таксама вядомыя навукоўцы, пісьменнікі, мастакі, журналісты, музыкі, спевакі, сябры дый сяброўкі.

Думаецца, што гэты дзень – 11 снежня – надоўга застанецца ў памяці тых, хто ўдзельнічаў у імпрэзе. Найперш я маю на ўвазе мясцовых жыхароў: інтэлігенцыю, навучэнцаў, суседзяў, сваякоў, якія не збаяліся забароны мясцовай улады, прыйшлі ляўкасу. Гэта мой дарунак землякам”.

Прыватная ўстанова культуры ў Беларусі – з’ява даволі рэдкая. Некалі Алесь Пушкін утварыў мастацкую галерэю ў Віцебску, а Яўген Будзінас заснаваў цэлы музейны комплекс “Дудуткі”. Мастацкі музей у Старых Дарогах – новы асяродак беларускае культуры. Дык пажадайма яму росквіту ды плённае працы на карысць Бацькаўшчыны!

*Ірына Марачкіна, адказны сакратар ТБМ.*

# Высоцкі па-беларуску

У апошнія месяцы 1999 года ў выдавецтве “Беларускі кнігазбор” накладам 1000 асобнікаў выйшла кніга Уладзіміра Высоцкага на беларускай мове. Кніга называецца “Я не падману”. Пераклад здзейсніў Міхась Булавацкі, старшыня Магілёўскай абласной рады ТБМ. Мастак Базыль Камароў. Кніга змяшчае арыгіналы і пераклады на беларускую мову 28 твораў шырокавядомага паэта, спевака, актора. Пераклад верша “Не хачу паміраць” мы прапануем нашым чытачам.

## Не хачу паміраць

Калі я адпяю і адыграю,
Дзе скончу і на чым -- не адгадаць.
Адно дакладна ведаю, што крайне
Мне будзе не хацецца паміраць!

Сяджу на літым ланцугу пашаны
І -- звенні славы мне не па зубах...
Эй, хто там у прабой дубовай брамы
Ўсё грукае: ба-бах, ба-бах, ба-бах?..

Маўчыць мой госць, але стаіць, чакае,
Яго не страшаць спушчаныя псы.
І вось над тынам раптам прыкмячаю
Знаёмы бляск завостранай касы...

Я ператру сярэбраны аброжак!
І залаты ланцуг разбіць змагу!
Махну праз тын, гушчар -- па бездарожжы
Абдзёрты ў навальніцу прыбягу!




# Калядныя ўзоры

У выставачнай зале Менскага абласнога цэнтра народнай творчасці адкрылася VII Рэспубліканская выстава “Калядныя ўзоры”.

Па традыцыі напярэдадні Калядаў Беларускі Саюз майстроў народнай творчасці падводзіць вынікі сваёй дзейнасці за год і знаёміць менчан з лепшымі работамі сяброў Саюза.

На здымках:

1. На выставе “Калядныя ўзоры”
2. Пудэлак “Усяслаў Чарадзей” -- (дрэва, бяроста, роспіс) работа Валерыя Іванова.

Фота Яўгена Казюлі, БелТА.







№ 2 (439) 12 СТУДЗЕНЯ 2000 г. Наша слова

# Ляхавіцкія сімвалы





Гістарычную несправядлівасць, дапушчаную ў другім тысячагоддзі, у Ляхавічах вырашылі выправіць, не чакаючы прыходу трэцяга. Вядомае яшчэ з XV стагоддзя паселішча, якое не раз адбівала ўсемагчымыя нашэсці захопнікаў, так і не здолела набыць свой уласны герб. І толькі ў канцы гэтага стагоддзя была распрацавана сімволіка горада, якая ўпрыгожвае сёння яго цэнтральную плошчу. А на рацэ Ведзьма, там, дзе калісьці знаходзіўся драўляны замак, перабудаваны пазней у крэпасць -- так званую Ляхавіцкую фартэцу, устаноўлены памятны камень. Усе надпісы на гербе і памятным камені выкананы па-беларуску.

На здымках: 1. Герб горада Ляхавічы. 2. Памятны камень на месцы замка.
Фота Рамана Кабяка, БелТА.

## “Родная мова - больш чым вучэбны прадмет,--

так лічыць настаўніца беларускай мовы і літаратуры Г.У. Махамет,--гэта і сродак пазнання свету. Добрае веданне роднай мовы і валоданне ёю дапамагае вучням паспяхова набываць веды па ўсіх школьных прадметах. Таму працэс навучання мове я стараюся арганізаваць так, каб дзеці не толькі атрымлівалі вузка спецыяльныя веды і навыкі, але і развівалі мысленне, кругагляд. Ад таго, як вучні авалодаюць мовай, залежаць іх далейшыя поспехі ў вучобе.

На ўроках мовы вырашаюцца асноўныя задачы: адукацыйная, практычная, развіццёвая і выхаваўчая. Адукацыйная заўсёды звязана з фармаваннем веды аб сістэме мовы. Практычная – уменняў і навыкаў. Развіццёвая мэта прадугледжвае найперш развіццё навыкаў маўленча-камунікатыўнай дзейнасці, інтэлектуальных здольнасцяў, памяці вучняў. Выхаваўчая мэта звязана з выхаваннем культуры мовы і эстэтычных густаў.

Нашы настаўнікі-мовазнаўцы вучаць дзяцей актыўна набываць веды, творча думаць самастойна аваладваць метадамі і прыёмамі даследавання і пазнання.

Гаворачы пра развіццё і выхаванне асобы, мы, настаўнікі, заўсёды памятаем, што творчую асобу можна выхаваць толькі ў працэсе вучэбнай дзейнасці – актыўнай, творчай. А для гэтага мы стараемся вучыць дзяцей нестандартна мысліць, самакрытычна ацэньваць свае поспехі ў вучобе, выказваць арыгінальныя меркаванні, абгрунтоўваць уласную пазіцыю. Гэтым самым мы рыхтуем дзяцей да самастойнага жыцця, калі яны выйдуць са сцен школы”.

*Уласны кар.*
*г. Масты.*

*“Не пакідайце ж мовы нашай беларускай...”*

## Адбылася II абласная справаздачна-выбарная канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны

За час, які прайшоў пасля першай канферэнцыі, колькасць суполак, што ўваходзіць у арганізацыю ТБМ, павялічылася на Віцебшчыне з 9 да 14. Старшыня абласной рады Таварыства І.Навумчык адзначыў плённую работу сваіх сяброў ТБМ. У Бешанковіцкім раёне, напрыклад, яны выпусцілі некалькі нумароў сваёй газеты, дапамаглі выдаць кнігу мясцовага паэта А.Бабаеда, які нядаўна прыняты ў сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У справе прапаганды роднага слова абласная арганізацыя ТБМ вельмі цесна супрацоўнічае з пісьменніцкай арганізацыяй Віцебшчыны. У абласным цэнтры, Полацкім, Глыбоцкім, Ушацкім і многіх іншых раёнах прайшлі сустрэчы, вечарыны і канферэнцыі з удзелам сяброў абласнога аддзялення СПБ Анатоля Канапелькі, Уладзіміра Папковіча, Франца Сіўко, Барыса Беляжэнкі, Алеся Жыгунова, Віталя Гарановіча, Германа Кірылава і іншых мясцовых паэтаў і пісьменнікаў. За апошнія два гады некалькі разоў прыязджалі на Віцебшчыну і выступалі ў розных аўдыторыях таксама Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў і Лявон Баршчэўскі.

Акрамя культурна-асветніцкага, важнейшым накірункам дзейнасці арганізацыі з'яўляецца падтрымка беларускага школьніцтва. Па звестках абласнога ўпраўлення адукацыі, у класах з беларускай моваў навучання на Віцебшчыне займаюцца 52500 дзяцей, што складае 26% ад агульнай колькасці вучняў. Большасць беларускамоўных школ – сельскія, сярод якіх шмат малакамплектных.

Калі гаварыць аб першых класах, то ў сёлетнім навучальным годзе вучыцца на роднай мове пачалі ад 60% да 70% вучняў у Глыбоцкім, Докшыцкім, Міёрскім, Расонскім, Ушацкім, Шаркоўшчынскім, Шумілінскім раёнах і значна менш ад 30% да 45% - у Аршанскім, Лепельскім, Чашніцкім і Верхнедзвінскім.

Што тычыцца гарадоў, то тут вельмі трывожная сітуацыя. У Оршы, напрыклад, сёлета не створана ніводнага першага беларускамоўнага класа, а ў Віцебску па-беларуску ў першых класах вучыцца толькі 1,4% дзяцей. Між тым, як сведчаць звароты ў арганізацыі ТБМ, значна больш бацькоў жадаюць, каб іх дзеці атрымалі беларускамоўную адукацыю. І задача Таварыства дапамагчы такім бацькам рэалізаваць свае канстытуцыйнае права на выбар мовы навучання.

У дакладзе і выступленнях адзначалася, што ёсць выпадкі, калі ўпраўленні і аддзелы адукацыі прызнаюць кіраўнікамі беларускамоўных гімназій і школ педагогаў, якія негатыўна ставяцца да беларускасці і якія потым пачынаюць дамагацца пераводу гэтых школ і гімназій на рускую мову навучання.

Канферэнцыя адобрыла ініцыятыву Гарадоцкай рады ТБМ, якая сумесна з раённым аддзелам адукацыі аб'явіла сярод настаўнікаў конкурс на лепшага рупліўца роднага слова. Пераможцы атрымаюць ад 40 да 20% надбаўкі да акладаў за два месяцы, а кожны ўдзельнік – 20% надбаўкі да месячнага аклада.

На Віцебшчыне актыўна вёўся збор подпісаў за адкрыццё ў Беларусі вышэйшай беларускамоўнай навучальнай установы. Старшыня рэспубліканскай рады Таварыства А.Трусаў, які прыняў удзел у канферэнцыі, расказаў, што ўжо робіцца, каб такая ВНУ з'явілася. У праватнасці, створаны арганізацыйны камітэт, які ўстанавіў кантакты з патэнцыяльнымі выкладчыкамі: каля 100 дактароў навук і 400 дацэнтаў і кандыдатаў далі папярэднюю згоду працаваць у вышэйшай беларускамоўнай навучальнай установе. Па задуме арганізатараў, гэта будзе нацыянальны універсітэт, які пачне рыхтаваць высокакваліфікаваных спецыялістаў розных галін, у тым ліку і тэолагаў.

Па словах А.Трусава, Таварыства ўвайшло ва ўрад рэспублікі з прапановай аб'явіць надыходзячы 2000 год годам Ф.Багушэвіча, чые крылатыя словы "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі..." сталі запаветам нашчадкам.

У выступах на канферэнцыі гаварылася аб неабходнасці прадаўжэння работы па ўвекавечанні памяці вядомых беларускіх дзеячоў у назвах вуліц, бібліятэк, іншых устаноў культуры.

У сувязі з узрослай колькасцю сяброў ТБМ у вобласці на канферэнцыі прынята рашэнне павялічыць склад абласной рады з 17 да 19 чалавек. Яе старшынёй зноў абраны І.Навумчык.

*В. Кадушка.*

## Віцебская абласная рада

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, выбраная II-ой абласной канферэнцыяй 28 лістапада 1999 года.

1. Арлоў Валянцін Мікалаевіч – намеснік старшыні абласной рады, старшыня Віцебскай гарадской рады ТБМ, пенсіянер.
2. Бабашка Рыма Іосіфаўна – сябар рады, метадыст аддзела гуманітарна-эстэтычных дысцыплін Віцебскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіраўнічых работнікаў сістэмы адукацыі.
3. Бубала Антон Францавіч – сябар рады, настаўнік, старшыня Верхнядзвінскай суполкі ТБМ.
4. Варатынская Галіна Аляксандраўна – сябар рады, загадчык аддзела Ушацкай раённай газеты "Патрыёт", старшыня суполкі ТБМ.
5. Гаравы Леанід Антонавіч – сябар рады, дырэктар Вархоўскай базавай школы, старшыня Гарадоцкай рады ТБМ.
6. Гарэлікава Тамара Пятроўна – сябар рады, старшыня Полацкай гарадской рады ТБМ, настаўніца беларускай мовы і літаратуры Полацкай нацыянальнай гімназіі.
7. Кадушка Вера Уладзіміраўна – сябар рады, загадчык аддзела сацыяльных праблем абласной газеты "Народнае слова".
8. Канапелька Анатоль Мікалаевіч – сябар рады, дацэнт кафедры беларускай літаратуры Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя Машэрава, пісьменнік.
9. Крывёнак Міхаіл Фадзеевіч – намеснік старшыні рады, пенсіянер.
10. Лукашонак Рыта Фёдараўна – сябар рады, настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ухвішчанскай базавай школы Полацкага раёна.
11. Ляхоўская Ларыса Фёдараўна – адказны сакратар рады, спецыяліст упраўлення адукацыі Віцебскага аблвыканкама.
12. Ляўковіч Міхась Васільевіч – сябар рады, старшы выкладчык кафедра выяўленчага мастацтва Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя Машэрава, кіраўнік суполкі мастакоў "Віцебская акварэль".
13. Мялешка Наталля Віктараўна – сябар рады, студэнтка 2-га курса факультэта беларускай філалогіі і гісторыі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя Машэрава.
14. Навумчык Іосіф Адамавіч – старшыня абласной рады ТБМ, пенсіянер.
15. Нагорны Юры Аляксандравіч – сябар рады, дырэктар СШ № 22, старшыня Аршанскай гарадской рады ТБМ.
16. Нікіціна Людміла Канстанцінаўна – сябар рады, настаўніца Заронаўскай базавай школы, старшыня Віцебскай раённай рады ТБМ.
17. Пашынскі Мікалай Пятровіч – сябар рады, начальнік упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама.
18. Рымша Аляксандр Георгіевіч – сябар рады, старшыня Наваполацкай рады ТБМ.
19. Сіўко Франц Іванавіч – сябар рады, сакратар Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.

## ЦІ ПАКОНЧЫМ З МАЛПАВАННЕМ?..

Трапляюцца між намі "фюрэры", якія хочуць кіраваць народам, прыкрываючыся тым, што яны таксама, "тоже" беларусы. Кожны бачыць і разумее іх звярыную нянавісць да ўсяго беларускага і не дзівіцца. Такімі заўсёды былі каланізатары і іхнія найміты.

Але здзіўляе і насцярожвае другое: сярод нас, беларусаў-патрыётаў, заўважаюцца адзінкі (нават сярод навукоўцаў), якія па прывычцы ўсё малпаваць асабліва ад "старэйшага" брата, самі пачынаюць калечыць сваю родную мову.

І калі такія адзінкі з'яўляюцца (крый Божа!) акадэмікамі, хоць нават з купленымі дыпломамі, тады ўслед за іхнім калечаннем мовы пруцца не толькі кар'ерысты, але і сапраўдныя інтэлігенты ды навукоўцы.

Чытаючы выступленні многіх (ужо – многіх) адказных дзеячоў культуры і асветы, або слухаючы іх па радыё, тэлевізіі, бачым (чуем) такія фокусы з нашай мовай, як "изобретенные" ПЕРШЫМ (начальнікам!) наватворы: ***"нармалёва"***, ***"дабраахвотна"***; альбо перавернутае значэнне слоў ***"справа"***, ***"зараз"*** і т.д.

Здаецца, настала пара канчаць з засмечваннем нашай, ужываннай у штодзённай гутарцы і ў літаратуры, высока ацэненай замежжам, мовы.

Канкрэтна, - слова ***"нармалёва"*** з не вельмі даўняга часу ўжываецца ў вулічным (з падваротні) жаргоне, а часам у студэнцкай жартоўнай адмене папулярнага слова. Аднак ні народ (Меншчына, Наваградчына, Полаччына і г.д.), ні нашыя класікі ў сваёй творчасці нідзе і ніколі не ўжывалі гэтай скалечанай (для жарту) формы слова. Дык няўжо ж мы будзем вулічны, ці зладзейскі жаргон пераймаць для абсурдных "паправак" у нашай мове?... Бо, калі прыняць да ўжытку слова ***"нармалёва"***, то чым горшым будзе ***"скандалёва"***, ***"тэатралёва"***, ***"візуалёва"***, ***"ідэалёва"*** і сотні іншых?... Як кажуць, - і смех і грэх!

Тое ж самае бачым у слове "дабраахвотна", якое некаторымі пісакамі ўжываецца ў скалечаным выглядзе. Бо можна дабраахвотна ісці на касьбу, па грыбы, пасціць тыдзень перад Вялікаднем ці Калядамі. Але дабраахвотна падстаўляць галаву пад кулі бадай ніхто не можа. Бо хто ж з ахвотай растаецца з жыццём? А вось дабравольна – здараецца. Ахвоты ніякай няма, аднак моцная воля змушае выканаць цяжкі і страшны чын. І пры тым, мы не парушаем чысціні нашай мовы. Бо воля, вольнасць каранное беларускае слова (агульнаславянскае).

***"Зараз"*** ужываецца недарэчна дзесяткі гадоў. Якісь нядошлы "фюрэр" філалагічных навук (які відавочна сам нашай мовай не карыстаўся), вычытаў у слоўніку, што расейскае ***"сейчас"*** – раўназначна беларускаму ***"зараз"***). І сталі гэтае слова ўжываць у цяперашнім часе. Гэтаму начальніку ніхто ні рашыўся сказаць, што ён мыляецца. Бо калі мяне хтось кліча, а я гавару (па расейску): ***"Сейчас-сейчас"***, --то гэта не азначае ***"цяпер-цяпер"***, а сэнс яго у тым, што прыду не пазней гадзіны.

Нідзе на Беларусі ў народнай гутарцы слова ***"зараз"*** у цяперашнім (заразным) часе не ўжываецца. Таксама і ў нашай класічнай літаратуры. Між іншым варта заглянуць у слоўнікі Ластоўскага ці Коласа, Крапівы.

Не меншая блытаніна практыкуецца са словам ***"справа"***. Няўдалы пераклад гэтага слова з расейшчыны прыводзіць да смехатворных казусаў. Вось напрыклад: "Не магу сядзець без справы".Адразу насоўваецца пытанне, - якой справы? Бо справа азначае нейкую сітуацыю, комплекснае паняцце, а не канкрэтнае. Напрыклад, калі мы пытаемся: "Як твае справы?", - гэта азначае – як ты жывеш? Як прабягае тваё жыццё?

Зварот: як ідуць твае справы? – не раўназначны расейскаму "как твои дела? У расейскай мове няма слова ***"чын" (дзеянне)***. А ў беларускай мове існуе больш дакладнае акрэсленне: ***действие*** гэта ***дзеянне***, а нашае слова чын мае іншы адценак. Па расейску мы гаворым ***"дело"*** адносна канверта з дакументамі і адносна чыну (дзеяння). Напрыклад: " Не могу сидеть без дела", на нашай мове гучыць: "Не магу сядзець бясчынна". Вялікі гістарычны чын (перамога пад Грунвальдам). А словы ***справа, справунак, справіць*** мае зусім іншы адценак (адценне).

Жывём у часе, калі ў нас ёсць спецыялісты (і не мала) не толькі ў галіне палітыкі ды эканоміцы. Але таксама сотні, калі не тысячы філолагаў. Ці не пара ім больш актыўна заняцца праблемай чысціні роднай мовы? Тым больш, што яе бязбожна калечаць прыблудныя і варожыя "дзеячы", якія рады былі б, каб беларускай мовы наогул на свеце не было...

*Андрэй Чэмер.*

## СЕМ РАЗОЎ АДМЕРАЙ...

Перш чым зрабіць штонебудзь, старанна абдумай, - вось чаму вучыць адшліфаваная стагоддзямі народная прыказка "Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж". Гэты афарызм павучальнага зместу дастасоўваецца і да друкаваных тэкстаў. На жаль, на старонках газет, часопісаў, кніг часам сустракаюцца неабдуманыя сцвярджэнні – штосьці адрэзанае без папярэдняга адмервання. Вось два прыклады.

У "Нашым слове" (№ 42 за 1999 г.) змешчаны "Абразкі ад Уладзіміра Содаля". Адзін з іх называецца "Чырвонае-белае ўсё перадзелае". Аўтар распавядае, як ён, гледзячы па тэлевізары "Пінскую шляхту" В.Дуніна-Марцінкевіча, пачуў з вуснаў старога шляхціца Кутарогі прыказку "Чырвонае-белае ўсё перадзелае". "Яна,-- піша далей аўтар,-- неяк кальнула ў самае сэрца: чырвонае-белае. Дык гэта ж колеры нашага гістарычнага сцяга! Ай ды Марцінкевіч! Бач, як хітра замаскаваў гэты сімвал! У Куторгавай моўнай гамане яго не адразу і запрыкмецішь, адчуеш праўдзівы яго сэнс. А сэнс гэты, як бачым, шматзначны: "Чырвонае-белае ўсё перадзелае!"

І далей У.Содаль дае волю думцы і фантазіі: "Мо згадка пра чырвона-белае, што ўсё перадзелае, - гэта пра бел-чырвона-белы колер харугваў Кастуся Каліноўскага? Мо намёк на сімвал нашага змагання? Мо і напраўду чырвонабелае ўсё перадзелае?!"

Баюся, што які-небудзь настаўнік, прачытаўшы гэты абразок, пачне і вучням уводзіць у вушы падобную трактоўку прыказкі, звязваючы яе з замаскаваным "намёкам на сімвалы нашага змагання".

Калі ж адарвацца ад тэлевізара і звярнуцца да тэксту самой п'есы, то ўбачыцца зусім іншая карціна. Ціхон Пратасавіцкі расказвае Куторгу, што ўжо ў ваколіцу ўехаў станавы прыстаў, асэсар Кручкоў на разбор судовай справы паміж Ціхонам і Цюхай-Ліпскім і што зараз ён усіх "абдзярэ, як ліпку". Куторга адказвае: "Вот дзіва, - на тое ён і асэсар! Заўваж толькі – у яго і рукі даўжэй, як у другіх людзей. Ты ведаеш яго прыпавесць: чырвонае – белае ўсё перадзелае. Гдзе ўнадзіцца юрыста, вымеце хату дачыста... Не дасі, - цябе замучыць..."

Звернем увагу на напісанне гэтай прыпавесці-прыказкі. Тут пасля "чырвонае стаіць не злучок, а працяжнік, а гэта, як кажуць, дзве вялікія розніцы. З кантэксту выразна і адназначна відаць: гаворка ідзе пра тое, што з дапамогай чырвонцаў, грошай, хабару ўсё можна перарабіць. У часы В.Дуніна-Марцінкевіча чырвонцам называлі залатую манету вартасцю ў тры рублі. П'еса і заканчваецца тым, як Кручкоў, абрабаваўшы шляхту, сабраўшы грошы ў мяшок, пакідае сцэну пад усеагульны воклік "Віват, найяснейшая карона!" У памянёнай рэпліцы Куторгі нават і пад мікраскопам нельга заўважыць ніякіх намёкаў ні на сімвалы, ні на "колеры нашага гістарычнага сцяга".

Іншы раз нявыверанае, сем разоў не адмеранае сцвярджэнне прымецца некаторымі чытачамі за чыстую манету, а то і пачынае вандраваць з аднаго друкаванага тэксту ў другі, усталёўвацца як нешта бясспрэчнае. Так, у кнізе П.Сцяцко "Праблемы нормы, культуры мовы" (1998) чытаем, што пасля арфаграфічнай рэформы 1933 г. аж да 1958 г. пісалі: Броўко, Глебко, Гродно. Але гэта няпраўда: пералічаныя словы заўсёды пісаліся з канцавым "а". Дастаткова звярнуцца да адпаведных старонак "Руска-беларускага слоўніка" (1953), каб пераканацца ў гэтым. Або глянуць на вокладкі кніжак П.Глебкі ці П.Броўкі, выдадзеных да 1958 г.

Гэта памылковае сцвярджэннен, ужо як неаспрэчная ісціна, было пасля паўторана ў часопісе "Роднае слова" (1998. №10.С.94). Відаць, і чытачы часопіса засвоілі гэта.

У сучасных газетах і часопісах побач з выхаднымі дадзенымі звычайна робяць агаворку, што ў адпаведнасці з Законам аб друку аўтары цалкам адказваюць за дакладнасць прыведзеных у публікацыі фактаў і звестак. Гэта і несумненны напамінак аўтарам пра іх маральную адказнасць перад чытачом.

***Іван Лепешаў,***
***прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.***

***Ад рэдакцыі.*** *Мы падалі гэтыя матэрыялы не таму, што цалкам згодныя ці нязгодныя з аўтарамі, а таму, што існуюць праблемы развіцця жывой беларускай мовы і праблемы творчага прачытання літаратурных твораў. Заўжды былі і наватары і кансерватары і былі акадэмікі - высокія спецыялісты, здольныя прымірыць адных і другіх перыядычнымі папраўкамі і ў слоўнікі, і ў граматыкі. Да прыкладу нямецкія лінгвісты выкінулі нядаўна з граматыкі каля паловы правілаў, і ўсё ў іх нармальна.*

*Мы гатовыя прадоўжыць гутарку на ўсе паднятыя тэмы.*

## *Беларуская мова*

*Сакавітая Боская мова!*
*Шмат стагоддзяў знішчаюць цябе*
*Так старанна, што роднае слова*
*Не чуваць у касцёле, царкве.*
*У касцёле казанні па-польску.*
*Раз каталік, то мусіць паляк,*
*Праваслаўны заўжды па-расейску,*
*Ці то поп, Філарэт, або дзяк.*
*Зневажае цябе, хто як хоча:*
*Навуковец, банкір, бізнесмен,*
*Выхавацель, вайсковец, рабочы*
*І галоўны народны спартсмен.*
*Усё боскае церпіць пакуты*
*Ад нахабнікаў і дзікуноў,*
*Ёсць заўсёды асветнікі - юды,*
*За пасады, за шэлег п'юць кроў.*
*Ды з'яўляюцца з часам высновы,*
*Хоць не кожнаму трэба яны.*
*Беларуская родная мова!*
*Адрастуць і твае карані.*

***Ігар Лосік,***
***Менск.***

## 60 гадоў запаведніку "Белавежская пушча"



25 снежня 1939 года Белавежская пушча абвешчана дзяржаўным запаведнікам. Гэты старэйшы лес Еўропы ўжо ў 1541 годзе стаў паляўнічым заказнікам. З 1991 года Белавежская пушча атрымала статус Нацыянальнага парка. У 1993 годзе ўключана ЮНЕСКА ў спіс біясферных запаведнікаў.Рашэннем 16 сесіі Камітэта сусветнай спадчыны Нацыянальны парк "Белавежская пушча" абвешчаны аб'ектам сусветнай спадчыны.

На здымках:

1. Гасцінічны комплекс "Віскулі" Нацыянальнага парку "Белавежская пушча". Тут сканаў Савецкі Саюз, што робіць пушчу сапраўды аб'ектам сусветнай спадчыны.

2. Наўпрасткі да зімовай кармушкі.

Фота з дассе БелТА.





№ 2 (439) 12 СТУДЗЕНЯ 2000 г.

Л. М. Уладыкоўская-Канаплянік, кандыдат філалагічных навук
дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны

# Што аб'ядноўвае беларускую нацыянальную ідэю і хрысціянства?

Аб'яднанне, пра якое пойдзе размова, даволі ўмоўнае, гэта ёсць спроба ўсяго толькі акрэсліць праблемнае поле.

1. Хрысціянства, як нацыянальная ідэя, ёсць сістэмай, суадносячы сябе з якой, чалавек пазбягае адзіноты, пачуцця ізаляцыі і бяссілля. Трагізм сітуацыі ў тым, што нацыянальная самаідэнтыфікацыя і суаднясенне сваіх маральных нормаў з хрысціянскімі цнотамі слабейшыя тады, калі чалавек больш за ўсё мае ў іх неабходнасць.

2. Хрысціянства, адзінае па духу, - на ўзроўні чалавечым, інтэлектуальным, сацыяльным – шматстайнае. Беларуская нацыянальная ідэя не мае на ўвазе аднадумства як адну адзіную думку, але развіваецца і існуе ў цэлым спектары падыходаў і меркаванняў.

3. Беларуская нацыянальная ідэя, як і хрысціянства, - і мэта, эталон, і спосаб дасягнення мэты. Беларуская нацыянальная ідэя, як і хрысціянства, - і стратэгія, і тактыка.

4. Беларуская нацыянальная ідэя, як і хрысціянства, грунтуецца на аптымізме.

5. І хрысціянства, і беларуская нацыянальная ідэя – канструктыўныя.

Беларуская нацыянальная ідэя – гэта, натуральна, таксама прагматызм, рацыяналізм, разуменне сусветных палітычных і культурных працэсаў у іх цэльнасці. Нашая беларускасць – вельмі прагматычны крок, бо за ёю ўжо ёсць значны духоўны патэнцыял, а за хрысціянствам – велізарная духоўная сіла.

Што датычыць знешняга боку праблемы ўзаемадачынення беларускай нацыянальнай ідэі і рэлігіі, хрысціянства, то тут важна адзначыць, што нацыянальная ідэя, будучы накіраванай на свабоду асобы і адначасова калектыўнае дзеянне, удала спалучаецца з дзвюма асноўнымі на Беларусі формамі хрысціянства – праваслаўем з яго ідэяю калектыўнасці, саборнасці, і каталіцтвам з яго большай заземленасцю і ўстаноўкай на індывідуальнасць.

У сваёй кнізе "Хрысціянства і беларускі народ" (Вільня,1940) Адам Станкевіч адзначае, што хрысціянства прынесла беларускаму народу культуру і асвету, паняцце грамадскай справядлівасці. "Хрысціянства ... прынесла ў Беларусь граматнасць.. гэта .. пабуджала творчы інстынкт народа і развівала яго нацыянальную асаблівасць, прычыняючыся да большага зліцця… плямён у адно цэлае нацыянальнае. Хрысціянства ... вытварыла ў народзе супольную веру, погляды, традыцыю, культуру, народную душу... тварыла роднную інтэлігенцыю ... Нацыянальнаю ідэяй была ідэя рэлігійная...".

Раскрываючы расейскую нацыянальную ідэю як "Самаўладдзе. Праваслаўе. Народнасць" і польскую як "Рэспубліка. Каталіцызм. Годнасць" праф. Юры Бачыўскі вызначыў беларускую нацыянальную ідэю як "Талерантнасць. Дэмакратыя, Талака". Нацыянальнай рэлігіі, як бачым, беларусы не маюць, таму і нацыянальная ідэя (а не асобны яе складнік) не можа быць рэлігійнаю.

Справядліва лічыць, што ў розныя часы беларускую нацыянальнасць падтрымлівалі розныя канфесіі, і з гэтага пункту гледжання добра, што беларусы не аднаканфесійныя. Так, паводле А.Станкевіча, "нацыянальная ідэя беларускага народа выплывае ... з палітычна-культурнай супярэчнасці Захаду і Усходу, з кантрасту, ... якіх падкладам з'яўляюцца рознасці Праваслаўя і лацінскага Каталіцтва".

У розны час уплыў каталіцтва на беларускі нацыянальны рух быў розны ў залежнасці ад таго, у склад якой дзяржавы ўваходзіла Беларусь. З пачатку XIX ст. каталіцтва пераважна яго падтрымлівала.

Менавіта ў каталіцкім асяроддзі нарадзіліся Я. Чачот, В.Дунін-Марцінкевіч, У.Сыракомля, П. Багрым, К.Каліноўскі, А. Гурыновіч, Ф.Багушэвіч, К. Каганец, Ядзвігін Ш., Цётка, Я. Купала, А. Гарун, браты Луцкевічы, В. Ластоўскі, Я.Драздовіч і інш. "Каталіцкасць – гэта не "польскасць", не вера, што прыйшла з Захаду. З Захаду прыйшоў абрад, а вера – ад Езуса Хрыста і па волі Божай...", але лёс каталіцтва на Беларусі ў многім залежаў ад Польшчы, яно ў нейкай ступені насіла (і часткова цяпер носіць) польскі характар, што і паслужыла перадумовай сумяшчэння этноніма і канфесіёніма: "паляк" – значыць "каталік", "католік" – значыць, "паляк". І, як не дзіўна, гэтая праблема цалкам не знята да сённяшняга дня.

Трэба прызнаць, што пасля праціглага перыяду ваяўнічага атэізму, у 80-90-я гады XX ст. Польшча дапамагала адрадзіць Каталіцкі Касцёл на Беларусі:

• Сам факт суседства з каталіцкай Польшчай у часы, калі людзі там маглі прымаць святыя сакраманты ў храмах, спрыяў захаванню ў нас хрысціянскай веры.

• З 230 ксяндзоў, якія абслугоўваюць 399 каталіцкіх парафій, польскіх святароў налічваецца ажно 134.

• У Гарадзенскай духоўнай семінарыі, якая дзейнічае з 1991 г., працуюць у асноўным выкладчыкі з Польшчы, як, дарэчы, у Гарадзенскім катэхтычным інстытуце і ў Баранавіцкім катэхтычным каледжы (апошнія два не зарэгістраваныя).

• Польскі касцёл забяспечвае беларусаў літаратурай (беларускай пакуль недастаткова), а польскія фірмы дапамагаюць адбудоўваць храмы (да прыкладу, катэдральны касцёл св. Марыі Панны ў Менску).

• Беларускімі касцёламі арганізоўваюцца паездкі ў Польшчу дзяцей з нядзельных школ.

• З-за адсутнасці ў нашай краіне адпаведных устаноў юнакі і дзяўчаты з Беларусі навучаюцца ў Каталіцкім універсітэце ў Любліне і ў Варшаўскай тэалагічнай акадэміі.

Да таго ж, вялікае значэнне мае для нас вопыт Польскага Касцёла, які быў апірышчам нацыянальнай культуры ў неспрыяльны для яе развіцця час.

Што трэба, каб каталіцтва спраўдзіла на Беларусі сваю універсальную місію (а не польскую)?

Што трэба, каб каталіцтва на Беларусі было незалежнае ад палітычных задач з іх кан'юктурнасцю, з'яўлялася ўвасабленнем еўрапейскай філасофіі, еўрапейскай культуры, урэшце, хрысціянскага светапогляду?

З аднаго боку, Касцёл павінен быць незалежным, надсацыяльным, але, з другога боку, адарванасць Касцёла ад сацыяльнага жыцця ёсць неўмяшацельства яго ў фармаванне грамадскай думкі, што пагражае адкідваннем хрысціянскіх ідэалаў на ўзбочыну жыцця.

Касцёл на Беларусі павінен адчуваць, што беларусы жывуць асобным жыццём, што ёсць дзяржава Беларусь, ёсць самастойная беларуская культура, ёсць беларусы, якім патрэбна згуртаванне. Касцёл павінен дапамагчы нам усім набыць пэўную, цвёрдую маральную і грамадскую пазіцыю.

Ведаю, што ў Польшчы беларушчыну фактычна падтрымлівае Праваслаўная Царква, але на Беларусі менавіта на Каталіцкі Касцёл ускладваюцца вялікія надзеі ў плане абуджэння патрыятычных, народных пачуццяў і фармавання нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

Улічваючы, што сістэмы рэлігійныя маюць больш уплыў на жыццё грамадства, чым, напрыклад, сістэмы навуковыя, разумеючы, што Беларусь адным сваім бокам моцна прарасла на Усход, а другім – на Захад, Касцёл можа не раз'ядноўваць нацыянальны арганізм, раз'ядноўваючыся перадусім у самім сабе (Гарадзенская дыяцэзія да гэтага часу моцна трымаецца польскіх традыцый, а Менска-Магілёўская архідыяцэзія і Пінская дыяцэзія лягчэй паддаюцца нацыянальным уплывам), Каталіцкі Касцёл мусіць актывізаваць уласцівыя яму дысцыплінаванасць, ідэалізм, ахвярнасць і на падставе ідэйна-культурнай кансалідацыі, як і на падставе экуменізму, спрыяць аб'яднанню беларускай нацыі.

Адносіны паміж людзьмі, а раўназначна і паміж народамі будуць павярхоўнымі, а значыць, і малакаштоўнымі, калі не закранаюць іх глыбіннай сутнасці. Калі Касцёл будзе ўсяго толькі функцыянальна, а не сутнасна, успрымаць беларусаў, ён не будзе садзейнічаць глыбіннаму добрасуседству беларусаў і палякаў. Калі Касцёл дапаможа абудзіць маральнасць, духоўнасць, а значыць і патрыятызм беларусаў, ён істотна ўмацуе, зробіць нашу повязь іманентнай.

Дзякуючы такой працы Касцёла памножыцца дабрыня, духоўнасць, усталюецца ўзаемаразуменне паміж людзьмі. А несці святло спакою, лагоды і міру і ёсць адно з асноўных заданняў Касцёла.

Чаго канкрэтна мы чакаем ад ксяндза незалежна ад таго, з Польшчы ён, з якой іншай краіны ці з Беларусі?

*Веры і ведаў, свядомай пазіцыі святароў у дачыненні да нацыянальнай культуры, якая таксама ёсць выяўленнем духоўнасці.

*Інтэлігентнасці, адукаванасці, што абавязкова мае на ўвазе веданне беларускага нацыянальнага менталітэту, хаця б асноў беларускай гісторыі і культуры.

*Валодання беларускай мовай, не ўжывання не толь-кі ў час святой імшы, але і ў штодзённым побыце (каталіцкія пераклады Біблії на беларускую мову мы маем ў аўтарстве кс.В. Гадлеўскага, кс.А.Станкевіча, кс. Н. Татарыновіча, кс. У. Чарняўскага). Душпастырства – асноўнае заданне святара, якое выконваецца ім безупынна, - наўрад ці можа быць эфектыўным, калі накіроўваецца на беларуса не па-беларуску, незалежна ад таго, ці гэта ўласна душпастырская дзейнасць, ці душпастырска-культурная, душпастырска-асветная, душпастырска-гуманітарна-харытатыўная і г.д. На жаль, у Гарадзенскай духоўнай семінарыі выкладанне ўсіх дысцыплін будучым святарам, пераважная большасць якіх з Беларусі, адбываецца ці не цалкам на польскай мове.

*Асветніцтва, скіраванага на народ. Святар мае вялізарны ўплыў на свядомасць і падсвядомасць вернікаў. У маім разуменні ксёндз не павінен апускацца да нацыянальнага нігілізму, якім часта грашаць вернікі, а наадварот, менавіта яму належыць уздымаць людзей да разумення неабходнасці любіць Бога, бацькоў, Бацькаўшчыну, што немагчыма без шанавання сваёй мовы, гісторыі, зямлі.

Я моцна ўпэўнена, што на Беларусі душпастырскія задачы святара могуць быць вырашаны шляхам спрыяння росквіту беларускай нацыі, тлумачэння яго неабходнасці і натуральнасці, выхавання павагі да традыцый свайго краю, сваёй гісторыі. Гэткім чынам будзе выканана важная місія хрысціянства – пашырэнне чалавечай свядомасці, паглыбленне і ўзвышэнне яго духу – у чалавеку, яго жыцці, у навакольным свеце.

Ліквідацыя ж падстаў дамінавання ў грамадстве ўяўлення пра каталіцтва як "польскую інтрыгу" паспрыяе актывізацыі Касцёла, пашырэнню каталіцтва, а заходні варыянт хрысціянскага светапогляду на глыбокім узроўні зблізіць беларусаў і палякаў.

Такім чынам, каталіцтва ў Польшчы і ў Беларусі – розныя рэчы. Розніца ж вынікае з розніцы гістарычна-культурнага лёсу народаў, розніцы традыцый, геапалітычнага становішча, урэшце, рэаліяў сённяшняга дня. Прывяду толькі адзін прыклад спецыфікі Касцёла на Беларусі ў 80-90-я г.г. Каталіцтва зазнае на Беларусі моцны ўплыў іншых канфесій, найперш – праваслаўя. Станоўчы бок гэтага ўплыву – вялікія патэнцыі экуменізму, асновы якога закладзены гісторыяй Беларусі.

Стаўшы рэальным фактарам фармавання беларускай нацыі, хрысціянства на Беларусі насіла магутны стваральны характар. Прыйшоўшы на Беларусь з Кіева, моцна звязанае з усёй візантыйскай культурай, хрысціянства з самага пачатку знаходзілася пад уплывам Апостальскай Сталіцы. На думку ж Адама Станкевіча, Царква на Беларусі была ў еднасці з Рымам ажно да пачатку 12 ст. Таму не дзіўна, што беларусы маюць шмат супольных (не раз'яднаных на праваслаўных і каталіцкіх) святых: Кірыл і Мяфод, Вольга, Уладзімір Вялікі, Барыс і Глеб, Еўфрасіння Полацкая, Кірыл Тураўскі.

Магутны аўтарытэт гэтых святых для беларусаў палягае, па-першае, на сімвалічным увасабленні ў гэтых постацях цэльнага, нераздзеленага хрысціянства, па-другое, вядомасць святых абумоўлена іх шырокім удзелам і актыўнасцю ў грамадска-культурным жыцці ў Беларусі, што выходзіла за межы чыста рэлігійнага жыцця. Выяўляючы менталітэт маладога этнасу, вышэйпамянёныя постаці аб'ектыўна выявілі адзін з асноўных архетыпаў беларускасці – імкненне да бесканфліктнасці – тое, што служыла і служыць перадумовай экуменізму.

Нягледзячы на розныя сацыяльныя і ідэалагічныя ўмовы, каталіцтва ў Беларусі атрымлівала ад Праваслаўнай Царквы своеасаблівую практычную дапамогу. Як вядома, ад часоў другой сусветнай вайны менскія вернікі-каталікі доўгі час не мелі сваёй святыні. Мітрапаліт Філарэт дазволіў менскім католікам збірацца і маліцца на ружанцы перад алтаром Менскай Божай Маці ў праваслаўнай катэдры задоўга да таго часу, як каталікі-вернікі атрымалі дазвол на рэгістрацыю першай Рымака-таліцкай парафіі (1978 г., касцёл Узвышэння Святога Крыжа на Кальварыйскіх могілках).

Дапамог у адкрыцці касцёла на Кальварыйскіх могілках Праваслаўны Мітрапаліт Філарэт, якога менскія каталікі прасілі хадайнічаць аб гэтым перад Масквою.

Вялікае здарэнне адбылося паміж Праваслаўнаю Царквою і Каталіцкім Касцёлам у Беларусі – перадача Праваслаўнаю Царквою Святога Агню з Ерусаліма Каталіцкаму Касцёлу ў 1994 г.

Працэсія з харугвамі аб'яднала Каталіцкую Катэдру і Праваслаўны Сабор, якія знаходзяцца ў сталіцы Беларусі Менску, амаль насупраць адзін аднаго. Пад урачысты перазвон званоў з абодвух святынь, пад радасныя рэлігійныя спевы ўсяго сабранага народу адбылася радасная сустрэча герархаў абедзвюх канфесій у Беларусі, якая суправаджалася ўрачыстым уваходам у сабор, прамовамі. Прынесены праваслаўнымі з Ерусаліму з вялікаю пашанаю і затрымаўшыся ў Беларусі, Святы Агонь, памножаны ў тысячах агеньчыкаў свечак, асвятліў і праваслаўных, і католікаў.

Паміж Касцёлам і Царквою хацелася б большага даверу, актыўнага разумення таго, што між дзвюма хрысціянскімі канфесіямі агульнага куды болей, чым адрознага. Прыклад таму – змешаныя шлюбы, тэрытарыяльнае суседства каталіцкіх касцёлаў і праваслаўных цэркваў, нярэдкі пераход людзей з адной канфесіі ў другую.

Сярод беларусаў пануе стэрэатып, што мы – хрысціяне, а ўжо потым – праваслаўныя ці католікі. Адна асоба Францыска Скарыны чаго вартая, калі даследчыкі дагэтуль спрачаюцца, праваслаўным ці католікам ён быў. Ф. Скарына абапіраўся на раннехрысціянскія ідэі, калі яшчэ не было падзелу. Таму перад ім проста не існавала такой праблемы – католік ці праваслаўны. Ф.Скарына апярэдзіў свой час, ён прадбачыў праблемы сённяшняга дня, калі для Беларусі з яе падзеленасцю экуменізм – бадай што адзіны паратунак.

Мне думаецца, што беларусы рэалізуюць сваю нацыянальную ідэю праз духоўна-культурную місію, якая, будучы накіраванай на сябе саміх, грунтуецца на глыбокай веры ў Боскую міласэрнасць і самакаштоўнасць кожнай асобы і любога шляху да Бога. Такое светаўяўленне рана ці позна прывядзе нас да выніковага экуменізму. Хацелася б толькі, каб святары і герархі хрысціянскіх канфесій шчыльней павярнуліся да беларушчыны, а ўжо там – колькі заўгодна прыкладаў і спосабаў еднасці. Прыняць і падтрымаць беларушчыну – гэта значыць не толькі праявіць хрысціянскую літасць, але і засведчыць разуменне таго, што, як кожная канфесія і рэлігія нясе ў сабе часцінку Божага Адкрыцця, так і кожная нацыянальная культура выяўляе гэтае Божае Адкрыццё па-свойму з прычыны розных традыцый.

Я веру, што канчатковая мэта чалавецтва – жыццё дасканалых людзей у дасканалым свеце – у прынцыпе дасягальная, але немагчымая не толькі без адзінства хрысціян, але без Сусветнай Уніі ў плане рэлігійным, дзяржаўным, нацыянальна-культурным. Чаму мы, беларусы, не можам даць прыклад такога шляху?



*Уладзімір Арлоў*

# АДКУЛЬ НАШ РОД

*(Працяг)*



## Пад прымусам чужынцаў

На захопленых землях царскія ўлады ўводзілі свае парадкі. Імператрыца Кацярына II і яе сын Павел раздалі мільён беларускіх сялянаў сваім памешчыкам. Прыгнёт у Расейскай імперыі быў больш цяжкі. Раней прыгонныя сяляне разлічваліся са сваімі гаспадарамі грашыма, цяпер жа мусілі ледзь не кожны дзень ад відна да відна працаваць на панскім полі.

У беларускіх гарадоў разам з самакіраваннем адабралі ўсе даўнейшыя правы і вольнасці. Каб хутчэй сцерці памяць пра той час, калі наша Бацькаўшчына была незалежная, новая ўлада забараніла нават старадаўнія гербы.

Падаткі на беларускіх землях былі ў пяць разоў цяжэйшыя, чым на расейскіх. Маладых здаровых мужчынаў пад прымусам забіралі ў царскую армію. Родныя развітваліся з імі так, як быццам праводзілі на той свет, бо салдаты павінны былі служыць цару ўсё жыццё. Потым гэты тэрмін зменшылі да дваццаці пяці гадоў, але пасля такой доўгай службы ўсё роўна амаль ніхто не вяртаўся дадому жывы.

Царскія ўлады не прызнавалі беларусаў за народ і змагаліся з нашай мовай. Вучыцца на ёй было забаронена. Нашых продкаў пазбаўлялі права на свае імёны і прозвішчы. Адразу пасля захопу ўсходніх земляў царскія пісарчукі перарабілі Міхасёў у "Михаилов", Язэпаў у "Иосифов", а Тамашоў у "Фомы". Жукі ператварыліся ў "Жуковых", Кавалі – у "Кавалевых"...

Новыя гаспадары ўчынілі над паднявольным народам яшчэ адзін здзек. Большасць беларусаў была ў той час уніятамі. Царская ўлада забараніла народную уніяцкую веру. Тых, хто не хацеў ісці да праваслаўных царскіх папоў, усяляк каралі і часам збівалі да смерці. У адной з тагачасных газет расейскі пісьменнік Аляксандр Герцэн расказаў пра выпадак, калі хлопчыку-уніяту, які адмаўляўся прыняць чужую веру, царская паліцыя загадала даць дзвесце бізуноў.

Трапіла пад забарону не толькі беларуская мова, але і сама назва Беларусь. Адмысловым указам цар загадаў ва ўсіх дзяржаўных дакументах называць нашу Бацькаўшчыну "Северо-Западным краем".

Беларусы не маглі змірыцца з расейскім панаваннем. На працягу няпоўных ста гадоў пасля захопу Беларусі нашы вольналюбныя продкі тройчы браліся за зброю, каб вырвацца са смяротных абдымкаў царскай імперыі.

Першым у гэтай барацьбе было паўстанне Тадэвуша Касцюшкі, пра якое пойдзе гаворка ў наступным апавяданні.

**Пытанні і заданні:**

1. *Чаму беларусы не хацелі жыць пад уладаю маскоўскіх цароў?*
2. *Раскажы пра парадкі ў Расейскай дзяржаве.*
3. *Чаму слабела наша краіна?*
4. *Што ты ведаеш пра падзелы Рэчы Паспалітай? Чым яны скончыліся?*
5. *Раскажы пра жыццё нашай зямлі пад царскім прыгнётам.*

## Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі

### Правадыр змагароў

Перш чым расказаць пра паўстанне нашых продкаў супроць расейскага панавання, пагаворым пра чалавека, які стаў правадыром змагароў.

Тадэвуш Касцюшка паходзіў са старога беларускага роду. Ягонае дзяцінства прайшло ў бацькоўскім маёнтку Мерачоўшчына паблізу ад мястэчка Косава (цяпер Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці). Сям'я Касцюшкаў у той час жыла ў сціплым драўляным доме пад саламянай страхой. Шмат вандруючы па свеце, Тадэвуш потым часта ўспамінаў прыгожыя беларускія краявіды вакол ракі Шчары, у якой ён у дзяцячыя гады любіў купацца і вудзіць рыбу.

Спачатку хлопчык асвойваў навуку ў недалёкай ад роднага дома вучэльні манахаў-піяраў. Тут ён вывучыў гісторыю і лацінскую мову, матэматыку і фізіку,



**Дом у Мерачоўшчыне, дзе нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка**

красамоўства і культуру пводзінаў.

Пасля вучэльні Касцюшка паступіў у Варшаўскі кадэцкі корпус. Такія корпусы рыхтавалі афіцэраў для войскаў Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. У тыя гады сябры празвалі Тадэвуша "Шведам з-пад Бярэсця". Такую незвычайную мянушку ён атрымаў за тое, што хацеў быць падобным да выдатнага палкаводца – шведскага караля Карла XII. Беручы з яго прыклад, Касцюшка штодня падымаўся а чацвёртай гадзіне раніцы і, каб не заснуць, апускаў ногі ў пастаўленую пры ложку балею з ледзяной вадой. Так ён загартоўваў сваю волю.

Вайсковую навуку Тадэвуш працягваў у Парыжы. Грошай ён меў мала, і часта сняданак і вячэра ў яго былі аднолькавыя – булка і шклянка кавы. І ў кадэцкім корпусе, і ў Парыжы Касцюшка займаўся яшчэ і маляваннем. З яго мог бы атрымацца добры мастак, але лёс вырашыў іначай.

Жыццё Тадэвуша склалася так, што, прыехаўшы з Парыжа, ён пражыў на радзіме вельмі мала. Якраз у тыя гады Паўночная Амерыка ваявала з Англіяй за сваю незалежнасць. Касцюшка сеў на карабель і выправіўся за акіян. У Амерыцы ён стаў у шэрагі змагароў за свабоду і дзевяць гадоў ваяваў на іх баку. Ён удзельнічаў ва ўсіх буйных бітвах з англічанамі, атрымаў чын генерала і стаў ганаровым грамадзянінам Злучаных Штатаў Амерыкі.

Калі Касцюшка вярнуўся дадому, у Беларусі адбываліся трывожныя падзеі. Расея, Аўстрыя і Прусія ўжо дзялілі Рэч Паспалітую і ўводзілі на захопленых землях свае парадкі. Беларусы, палякі, жамойты – усе, хто любіў Бацькаўшчыну, не маглі змірыцца з гэтым здзекам.

### Пачатак паўстання

Паўстанне пачалося ў сакавіку 1794 года ў старажытнай сталіцы Польскага каралеўства – Кракаве. Касцюшку абвясцілі начальнікам паўстання. Змагары хацелі выгнаць захопнікаў са сваёй зямлі і аднавіць незалежную Рэч Паспалітую ў яе ранейшых межах.

Хутка ўзялася за зброю і Беларусь. У адну з красавіцкіх начэй паўстанцы вызвалілі ад расейскіх войскаў сталіцу Вялікага княства Літоўскага Вільню.

Разам з іншымі змагарамі біліся з царскімі войскамі ўзброеныя косамі беларускія сяляне. Іх называлі касінерамі.

Паўстанцы спявалі "Песню беларускіх жаўнераў":

Помнім добра, што рабілі,
Як нас дзёрлі, як нас білі.
Докуль будзем так маўчаці?
Годзе нам сядзець у хаце!
Нашто землю нам забралі?
Пашто ў путы закавалі?

Дочкі, жонкі нам гвалцілі.
Трэ, каб мы ім заплацілі!
Коней нам пазаязджалі.
Што хацелі, то і бралі.
Пойдзем жыва да Касцюшкі,
Рубаць будзем маскалюшкі!

Маскалюшкамі называлі царскіх салдатаў-карнікаў.



МІХАЛ АГІНСКІ (1765-1833)

Да паўстанцаў перайшла ўлада ў Гародні, Берасьці, Наваградку, Слоніме, Пінску, Ваўкавыску, Браславе, Лідзе, Ашмянах і ў іншых беларускіх гарадах і мястэчках. У сярэдзіне траўня былі вызваленыя ўжо амаль усе землі Вялікага княства.

### Якуб Ясінскі

У Беларусі паўстаннем кіраваў палкоўнік Якуб Ясінскі, якому тады было трыццаць тры гады. Ён хацеў вызваліць сялянаў ад прыгону, пісаў па-беларуску адозвы, дзе заклікаў змагацца за свабоду, роўнасць і братэрства. Ясінскаму верылі простыя людзі. Падчас бою з царскімі войскамі каля вёскі Паляны да яго далучыліся семсот сялянаў-касінераў.



ЯКУБ ЯСІНСКІ (1761-1794)

Пад камандаваннем Якуба Ясінскага ў Беларусі дзейнічалі некалькі дзесяткаў паўстанцкіх атрадаў. На чале аднаго з іх стаяў наш зямляк кампазітар Міхал Клеафас Агінскі. Кожны беларус ведае ягоны славуты паланез. Сярод твораў Агінскага і "Марш паўстанцаў 1794 года".

Сам Ясінскі ўзначальваў атрад з чатырох тысяч змагароў. Ён атрымаў над расейскімі карнікамі некалькі важных перамогаў. Касцюшка прысвоіў паўстанцкаму камандзіру чын генерала.

### Царскія карнікі

Расейская царыца Кацярына II паслала супроць паўстанцаў вялікае, добра абучанае войска. Яго вёў генерал Аляксандр Сувораў.

Вы, напэўна ж, шмат чулі пра гэтага чалавека. Ён сапраўды быў здольны ваявода. Але ўсё сваё жыццё Сувораў аддана служыў расейскім царам. Ён не ўдзельнічаў ні ў воднай справядлівай вайне – толькі ў захопніцкіх.

Сувораў заліў беларускую зямлю крывёю. Ён загадваў растрэльваць палонных паўстанцаў, паліць вёскі, якія ім дапамагалі. Таму для Беларусі Сувораў – карнік і камандзір захопнікаў. За здзейсненыя тут ягонымі салдатамі крывавыя подзвігі ён атрымаў ад царыцы 13 з лішнім тысяч беларускіх сялянаў.

Паўстанцы не маглі доўга змагацца з расейскай арміяй, якая была выдатна ўзброеная і загартаваная ў захопніцкіх паходах. Апрача таго, царскім генералам удалося падмануць беларускіх сялянаў, паабяцаўшы ім адабраную ў "паноў-бунтаўшчыкоў" зямлю.

Улада прыхільнікаў Якуба Ясінскага пратрымалася ў Вільні толькі тры месяцы. Беларускія паўстанцкія атрады пачалі адыходзіць у Польшчу. Быў разбіты і атрад Міхала Агінскага. Перад тым як надоўга пакінуць родныя мясціны, ён напісаў у сваім маёнтку Залессе пад Смаргонню свой знакаміты паланез. Гэты музычны твор так і называецца – "Развітанне з Бацькаўшчынай".

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Злы геній расейскай літаратуры і просты беларус

*Тадэвуш (Фадзей) Булгарын*

## З "Успамінаў"

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

### 2

"Прабабка мая, пані Анюхоўская, адорана была дзіўнай, рэдкай, неспасцігальнай памяццю і памятала не толькі ўсё, што адбывалася ў яе дзяцінстве і маладосці, але нават і тое, што зрабіла на яе моцнае ўражанне на працягу ўсяго жыцця. Яна была на 12-м годзе жыцця, калі шведскі кароль Карл XII праходзіў з войскам са Смаргоні ў Барысаў у 1708 годзе. Акурат праз 100 гадоў пасля гэтай падзеі, калі я быў у яе 1807 годзе, яна распавядала мне пра Карла XII, які некалькі дзён кватараваў у доме яе бацькоў, нібыта яна бачыла яго напярэдадні. Вось яе аповяд, хоць недаслоўны.

Калі бацькі мае даведаліся, што шведскае войска ідзе ў Расію на Маладэчна, яны хацелі выехаць унутр краю і выслаць усе дарагія рэчы, бо маёнтак наш ляжаў на вялікай дарозе, а шведы былі жудасныя рабаўнікі. У маніфестах шведы называлі сябе нашымі прыяцелямі і ахоўнікамі, а абдзіралі да апошняй ніткі. Рускія таксама называлі сябе нашымі сябрамі і ахоўнікамі, і таксама не шкадавалі нас. Нашы палякі, трымаючыся то партыі Станіслава Ляшчынскага, то партыі Аўгуста II, гэта значыць то шведа, то маскаля, спусташалі нас не горш за іншых. Час быў цяжкі, і толькі дабрыня Божая ўтрымала тады ад пагібелі край, адкрыты для ўсіх і кожнага, як заезная карчма! Усе нашы дарагія рэчы былі ўжо складзены на фуры, і мы чакалі толькі звестак аб набліжэнні шведаў, каб выехаць, пакінуўшы дом на волю лёсу. Прыяцель бацькі майго, пан Валовіч, які знаходзіўся пры каралю шведскім, даслаў нарочнага з весткай, што ў нашым доме прызначана кватэра для Карла XII. "Кароль, пэўна, не абрабуе нас, - сказаў мой бацька, - а наадварот, абароніць. Навошта нам бадзяцца па чужых дамах: застанемся!" Маці мая згадзілася, і мы засталіся. Бацькі мае прыгатавалі пакоі, загадалі нават абабіць мэблю ў двух пакоях новым аксамітам і адамашкам (старой шаўковай тканінай, вельмі трывалай), назапасілі найлепшыя харчы і віны і чакалі гасцей, хоць і не вельмі спакойна. Нарэшце нам паведамілі, што шведы ўжо набліжаюцца, і ўвечары прыехалі да нас 24 чалавекі трабанты (салдаты з аддзелаў аховы. - заўв. Рэд.) з афіцэрам, які паставіў ля брамы двух конных вартавых, а на браме вывесіў вялікі жоўты сцяг са шведскім гербам як знак таго, што тут каралеўская кватэра. Для трабантаў і афіцэра адвялі пакоі ў флігелі, але шведы не жадалі заняць іх і правялі ноч пасярод двара і нават не расседлалі коней, хаця ўначы было яшчэ даволі холадна, бо гэта было ў палове сакавіка, а зіма таго года была працяглая. Усю ноч вакол дома і па дарозе бесперапынна раз'язджалі трабанты і падавалі сігналы, крычаўшы штомоцы і не даўшы нам заснуць. На золку пацягнулася войска шведскае міма нашага дома, і пры выглядзе каралеўскага сцяга білі ў барабаны. Палкі два пяхоты і некалькі эскадронаў конніцы спыніліся за нашым гумном лагерам, а ў самім гумне размясціліся афіцэры. Матуля, я і дзве пакаёвыя мае сястры прыбраліся; бацька апрануў свой парадны кунтуш, і мы не адыходзілі ад вакна, каб сустрэць караля ля ганка. Каля палудня заехалі на двор два шведскія афіцэры, а за імі конны салдат. "Няўжо гэта ад'ютанты шведскага караля, так бедна апранутыя?" – заўважыў бацька. Афіцэры злезлі з коней і ўвайшлі ў вітальню, потым у залу, вокнамі ў сад; іх сустрэў маршалак нашага дома (мажардом), таму што ўсе мы былі на кухні; вокнамі ў двор. Маршалак паведаміў бацьку, што афіцэры пытаюцца гаспадара дома. Мы ўсе перайшлі ў залу, загадаўшы служанцы паведаміць, калі кароль заедзе ў браму. "Ці вы гаспадар дома?" – спытаў ветліва па-нямецку афіцэр, маладзейшы за другога. "Да вашых паслуг, што вам трэба?" – адказаў бацька. "Тут каралеўская кватэра: пакажыце, калі ласка, пакоі караля", - сказаў афіцэр. "Увесь мой дом і ўсё, што ў ім, да паслуг Яго Вялікасці", - запярэчыў мой бацька. "Для яго дастаткова і аднаго пакоя, адказаў афіцэр, - а два пакоі прашу я для канцылярыі, для каралеўскага міністра і для двух ад'ютантаў". – "Распараджайцеся як ведаеце – увесь дом належыць Яго Вялікасці! - адказваў тата. – Але дазвольце даведацца, ці хутка кароль прыбудзе, каб сустрэць яго як належыць, ля ганку? Афіцэр усміхнуўся. "Вы ўжо яго сустрэлі, і нашмат спакайней для вас і для яго – я кароль!" Мы аслупянелі. Бацька мой хацеў прасіць прабачэння, але не знайшоў словаў і, толькі кланяючыся, правёў яго ў парадныя пакоі. Як цяпер бачу яго перад сабой, гэтага страшнага караля, пра якога пісалі столькі кніг! За тры дні я наглядзелася на яго досыць. Ён напужаў увесь свет, а сам быў ціхмяны, як ягня, сціплы, як манашка. Ён быў высокага росту, танклявы і сухарлявы. Твар у яго быў маленькі, зусім несувымерны цэламу тулаву і нават галаве. Прыгажуном ён не быў, нельга, аднак, сказаць, што ён быў брыдкі з твару, хаця быў трохі рабы. Затое цёмна-блакітныя вочы блішчэлі як дыяменты. Тады ўсе, хто насіў нямецкую адзежу, пакрывалі галаву вялізнымі парыкамі, што нашым палякам здавалася смешным, і непрыстойным; але кароль шведскі не насіў парыка. Валасы ў яго былі каштанавага колеру, лёгка напудраныя, астрыжаныя каротка або ўскудлачаныя ўгору, а ззаду завязаныя ў невялікую касу. Ён здаваўся вельмі маладжавым. Ён заўсёды быў у сінім мундзіры з жоўтым падбоем і чырвоным каўнярам, у жоўтым ласіным ніжнім адзенні і вялізных ботах з вельмі вялікімі шпорамі. Палаш ягоны, ласіныя пальчаткі, што даходзілі да локцяў, боты і шпоры былі ўвогуле не на ягоны рост, і мы, дзяўчаты, насміхаліся над гэтым галіяфаўскім узбраеннем. Капялюш ён насіў маленькі, без галуна, ды і ва ўсім ягоным убранні не было ні на адзін шэляг золата ці срэбра. Бацькі мае бесперапынна казалі нам: "Разглядайце караля! Гэта вялікі муж, як наш Ян Сабескі і Стэфан Баторый!" Бацька мой не любіў немцаў і вельмі паважаў Карла XII за тое, што ён выгнаў караля Аўгуста II з Польшчы і пасадзіў на прастол шляхціца, Станіслава Ляшчынскага.

Праз гадзіну прыехалі дзве брычкі і дзве крытыя фуры з людзьмі каралеўскімі. З гэтым абозам прыехалі каралеўскі міністр і другі ад'ютант. Між каралеўскімі людзьмі быў і перакладчык, і маці мая праз яго стала пытацца ў камердынера, якія стравы кароль больш любіць. "Усялякае смажанае мяса, свініну і дзічыну, - адказваў камердынер, - з зеляніны – шпінат, а з прыпраў пятрушку і руту. Свежай садавіны цяпер няма, а калі ў вас ёсць лімоны, пакладзіце перад ім на стол: кароль вельмі любіць іх". – "А якое віно п'е кароль?" – спытала матуля. "Ніякага! – адказаў камердынер. – Кароль не п'е нават піва: ён п'е адну ваду". У нас усяго было досыць; матуля ўмела нават захоўваць увесь год свежыя яблыкі. Абед быў гатовы а другой гадзіне, і матуля спытала ў камердынера, на колькі асобаў загадае кароль накрыць стол. Камердынер паведаміў каралю, а потым абвясціў матулі, што кароль будзе есці за адным сталом з усім нашым сямействам. Гэта ўсіх нас узрадавала, і бацька шкадаваў, што братоў маіх не было дома; яны тады былі ў Вільні, у школе. Я не адводзіла вачэй ад караля падчас застолля. Ён еў з апетытам, і асабліва яму спадабалася галава дзіка ў халодным. Ён еў больш ахвотна тлустую ежу і наогул ужываў багата хлеба. Падчас абеду ён пытаўся бацьку пра стан у краі і сказаў, між іншым, што вайна неўзабаве скончыцца, і ён дасць сродкі каралю Станіславу Ляшчынскаму ўзнагародзіць Польшчу за ўсё, што яна ператрывала. Перад абедам прыехалі да караля тры генералы, якіх бацька папрасіў застацца з намі паесці, і яны таксама размясціліся за агульным сталом. Усе шведы даволі добра пілі віно, хвалілі яго і нікольki не саромеліся прысутнасці караля. Але ён піў адно ваду, жаваў безупынна хлеб і не звяртаў на іншых увагі. З намі, гэта значыць з жанчынамі, ён не прамовіў ні слова і толькі сказаў камплімент матулі наконт яе гаспадаркі, калі даведаўся, што яблыкі з нашага саду. На другі дзень камердынер сказаў матулі, што кароль усім вельмі задаволены, але просіць, каб за сталом было не больш як чатыры стравы і каб абед працягваўся не больш чвэрці гадзіны. На вячэру кароль піў шклянку салодкага малака, дадаўшы ў яе солі, і з'ядаў вялікі кавалак хлеба. Усю раніцу ён праводзіў за паперамі. Камердынер сказаў нам, што кароль для таго толькі і спыніўся ў нас на трое сутак, каб напісаць паперы, якія з нарачным неабходна адаслаць у Швецыю. Пасля абеду ён гуляў у садзе, па вялікіх прысадах, са сваім міністрам, а мы разглядалі яго з альтанкі. Ад'яджаючы, кароль са сваіх рук падараваў бацьку майму залатую табакерку са сваім вензелем з дыяментаў і загадаў заплаціць за ўсё, што было забрана для ягоных людзей і коней. Бацька мой пакрыўдзіўся на гэта і сказаў ад'ютанту, што ён шляхціц, а не карчмар, і частуе караля, а не гандлюе харчамі і фуражом. Калі мы даведаліся аб няшчасці Карла пад Палтавай, мы ў душы шкадавалі аб ім, хаця і не трацілі надзею, што ён яшчэ выправіцца, а калі да нас дайшла навіна аб ягонай смерці – мы ўсе плакалі!"

### 3

Бачыла я таксама і спаборніка Карла, маскоўскага цара Пятра. Гэта было ў 1711 годзе, таксама ў сярэдзіне сакавіка. У Слуцку стаяў расійскі фельдмаршал Шарамецеў (прабабка называла яго Шарамет), і мы паехалі ўсім сямействам ў Слуцк, каб прасіць у яго заручкі, бо яго казакі і розныя дзікія народы, башкіры і калмыкі, ажыццяўлялі страшэнныя рабункі. У гэты ж час распаўсюдзілася вестка, што сам цар будзе ў Слуцку, разам з жонкай сваёй, якую тады ўпершыню назвалі царыцай. У Польшчы казалі, што новая царыца родам польская шляхцянка з роду, які застаўся ў Ліфляндыі ад часоў Жыгімонта і потым збяднеў. Усе нашы дамы вельмі цікавіліся пабачыць царыцу і падмаўлялі мужоў сваіх даць баль для цара. Дзеля гэтага прыбралі вялікую залу на радзівілаўскай фабрыцы паясоў і падрыхтавалі найцудоўнейшы пачастунак. Цар прыехаў з царыцай і сваімі генераламі і афіцэрамі. Ён быў вялікага росту, маладзец сабой і прыгажун, з чорнымі вусамі і арліным позіркам, толькі вялізны парык вельмі псаваў ягоную прыгажосць. Ён быў у сінім мундзіры і здаваўся зграбным і бесцырымонным. Мовіў ён гучна, жартаваў і смяяўся. Яму было ўжо пад сорак гадоў, але з твару ён здаваўся маладзейшым. Мяне вельмі здзівіла, што ў цара, як і ў ягонага спаборніка Карла, твар што да росту здаваўся невымерна малым. Царыца была вельмі нядрэнная знешне, з вялікімі чорнымі вачыма і спакуснымі плячамі, белымі, як снег. Яна была ў белай атласнай сукенцы, з малінавым аксамітным верхам, спераду расшпіленым і з шлейфам, і ўся ў дыяментах і пярлінах. Валасы былі напудраны, а над высокай прычоскай была маленькая дыяментавая карона. Яна ладна мовіла па-польску, хоць дамешвала расейскія словы, але па-нямецку ўмела добра. Цар Пётр, убачыўшы мяне, падышоў і, пахваліўшы мой рост, спытаў, колькі мне гадоў, а потым дадаў, што калі я хачу ісці замуж, то ён знойдзе мне кавалера адпаведна майго росту. Потым паклікаў грэнадзёрскага афіцэра, такога ж вялікага, як і ён сам, і прадставіў яго мне. Разумеючы жарт, я адказала, што, наадварот, хачу маленькага мужа. "Каб трымаць у руках, ці не так? – сказаў цар з усмешкай. - Ой вы, полькі!" З гэтым ён пакінуў мяне. Цар і царыца танцавалі полькі і засталіся вячэраць. За сталом цар піў віно з вялікага келіха за здароўе польскага караля Аўгуста II і за росквіт рэспублікі, называючы сябе яе сябрам, і быў вельмі фамільярны з палякамі. Нашы пілі за здароўе цара, царыцы і расейскага войска. Адзін з нашай шляхты, добра выпіўшы, сказаў, што калі б ён дажыў да выбараў, то аддаў бы голас за выбранне цара ў польскія каралі, што вельмі яму спадабалася, і ён падняў тост за здароўе польскай шляхты. Потым прамоўлены былі тосты за здароўе дам, і нарэшце наш знакаміты народны тост "кахаемся". Калі ўсе ўзняліся пры гэтым, па старым звычаі, і пачалі абдымацца і цалавацца, цар таксама цалаваўся і абдымаўся з усімі. Раз'ехаліся па дамах позна, і ўсе мужчыны ўжо на добрым падпітку. Нашы палякі вельмі палюбілі цара за яго папулярнасць, што акурат у нашым народным духу, і скардзіліся яму на ўлюбёнца ягонага, князя Меншыкава, які не вызначаўся бескарыслівасцю і захапіў усе каштоўнасці, нават у пані Агінскай, цёткі пана Агінскага, самага аддана царскага прыхільніка, які ваяваў за яго супраць шведаў. Цар сказаў, што ўсё зло адбываецца насуперак ягонай волі, і што Меншыкаву не будзе даравання, а пані Агінская атрымае назад усё, што забрана. Цар з царыцай прабылі ў Слуцку пяць дзён, і я бачыла яго штодня на вуліцах і ў доме пана Хлявінскага. Без вялікага парыка ён быў прыгажун. Ён пазнаў мяне пры першай сустрэчы, пасля балю, і паўтарыў свой жарт, сцвярджаючы, што я мушу быць абавязкова ягонай грэнадзёршай, то значыць жонкай ягонага велічэзнага капітана. Ды ўсё ж сціплы і задуменны Карл мне больш падабаўся!..

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 10. 01. 2000 г.
Наклад 3200 асобнікаў. Замова № 2
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 100 000 руб., 3 мес.- 300 000 руб.
***Кошт у розніцу:*** 25 000 руб.